УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Б25

**Бароўскі, А.**

З бліскавіцай заручуся : вершы / Анатоль Бароўскі. - Мінск : Асобны, 2007. - 92 с.

ISBN 978-985-6817-67-3.

Анатоль Бароўскі - празаік і паэт, публіцыст і мастак... Усе вершы прасякнуты роздумам пра час, у якім жывем, спадзяваннем, што нас заўсёды будзе саграваць Сонца Дабрыні і Пяшчоты.

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бей)-5

*Літаратурна-мастацкае выданне*
**БАРОЎСКІ** Анатоль Мікалаевіч

**З БЛІСКАВІЦАЙ ЗАРУЧУСЯ**
*Вершы*
*Захавана арфаграфія аўтара*
Рэдактар А. *Зэкаў*
Стыль-рэдактар *Н. Драздова*
Малюнкі, кампутарны набор *А. Бароўскі*
Падпісана да друку 04.06.2007. Фармат 62x90'/24.
Папера афсет. Друк афсетны. Гарнітура Times.
Ум. друк. арк. 3,94. Ул.-выд. арк. 3,21.
Наклад 300 паас. Замова 333.
Выдавец і паліграфічнае выкананне - ПУП «Асобны».
ЛИ № 02330/0131740 ад 06.03.2006, ЛП № 02330/0150006 ад 02.05.2005.
220030, г. Мінск, вул. Кастрычніцкая, 19/М.
**ISBN 978-985-6817-67-3** 

## Лісты да каханай

* * *

***Есьць мы...***
***А ў нас - і дні, і ночы...***
***І - цэлы сьвет каханьня,***
***і - Сусьвет.***
***За намі неадступна***
                                        ***пільна сочаць***
***і Сонца - Бог,***
***і Месячык - Паэт...***

**Прыцягненьне**

Мне безь цябе, як Дню бяз Сонца,
а Сонцу бязь Неба,
а Небу - бяз Бога...
Думкі мае пра цябе бясконца,
сьцішыцца б трэба,
мо шчасьця й замнога.
Мне безь цябе, як Птушцы бяз Крылаў,
а Крылам бязь Ветру.
а Ветру - бяз Прагі.
Ня хочу, каб сэрца ў каханьні астыла,
у зрэначках-нетрах шукаю адвагі.
Мне безь цябе, як Душы бязь Цела,
а Целу бяз Сэрца,
яму ж - бяз каханьня...
Мы пад нябёсы з табою ўзьляцелі:
хацелі сагрэцца -
згарэлі дазваньня...

* **

...Я б табе і дзень, і ноч пісаў лісты,
каб ведаў , што шчасьліваю ты будзеш,
што нашых стрэч ніколі не забудзеш,
што крочыць будзем побач - я і ты...
Над азярцом паплыў трохкутнік жураўліны
Дзесь сярод іх «ка-лі?» - крычым і мы...
Ды рэха адлятае водгалас нямы -
як даляцець нам да планеты той, адзінай?
Ляцець нам цяжка - ў грудзі б'е прастор,
але жыве ў душы і сьпее наша вера -
мы ў разрыў з табой ніколі не паверым,
каханьне наша даляціць усё ж да зор...
...Я табе і дзень, і ноч пішу лісты.
Бо ведаю: усё цяпер яно іначай будзе,
што некалі мяне нат мёртвага разбудзіш,
калі да вуснаў дакранесься толькі ты...

* * *

...Ласкавае мора і лес прыгожы,
прырода кранае сваёю цнотай...

Але ні зь кім параўнацца ня зможа
твая прыгажосць і твая пяшчота...

**Дзякую**

Ты гавары мне, гавары...
Цябе мне слухаць бы і слухаць, -
а я б шаптаў табе на вуха,
што той агонь даўно гарыць...
Ты гавары мне, гавары...
І ўжо прыходзіш ка мне ў сны,
не папытаўшы свайго сэрца, -
каб разам мы маглі сагрэцца
цяплом зялёнае вясны -
і ўжо прыходзіш ка мне ў сны.
Ты гавары мне, гавары...
Чаму здараецца на сьвеце:
павее ў сьцюжу цёплы вецер -
і ты ў мароз агнём гарыш, -
ты гавары мне, гавары...
Ты ж пасьмяесься з маіх слоў:
«То ўсё прыдумалі паэты...»
Табе ж я дзякую за гэта, -
што Яно ёсьць, а не было...
...Ты ж пасьмяесься з маіх слоў...

* * *

...На калені можна стаць
толькі перад Вышнім.
І яшчэ перад табою, каб
вымаліць у цябе даравання
за свае памылкі, - і за тое,
што быў глухі ўвесь час
да тваёй пяшчоты і кахання...
...Але ўжо таго мне не даруе Бог...

## Крок насустрач

Цябе мне Бог паслаў, няйначай,
адчуўшы боль мой, смутак і тугу.
Мне кружыць голаў вуснаў смак гарачых
і шэпт: «Я памагу, я ўсё магу...»
Дзівосны сьвет і словы чараўныя,
і сэрцы нашы б'юцца унісон...
Чаму ж так сэрца адчувальна ные,
а я дзіўлюся - можа гэта толькі сон?
Твой крок насустрач зь месца зрушыў
і час, і думкі, і жаданьні мрой...
Зьядналіся ў адно спатоленыя душы
і зноўку сілай наліваецца сьціло.
Я слаўлю час, што нарадзіў сустрэчу,
што ён вярнуў каханьне і цябе.
І раніцай зацьвіў асеньні вечар -
перамаглі абое ў гэтай барацьбе.
Цябе мне Бог паслаў, няйначай,
як боль адчуў мой, смутак і тугу...
Чым мне Яму за ўсё адзьдзячыць?
Адно цябе кахаць бяз стомы я змагу.

## Берагі

Тваім я грэюся
каханьнем,
таму й ня ведаю тугі, -
так рэчку лашчаць
да сьвітаньня
k яе абодва берагі.
Так поўня Сож адно цалуе,
сваю пяшчоту аддае...
Мой травень да цябе вяслуе,
гады мае, гады мае...
З табой сустрэліся
ў сузор'і,
на аблачынах сьпім з табой.
Мы не маўчым,
мы й не гаворым, —

і ўсё ляцім туды, дзе Бог...
Тваім я грэюся каханьнем,
таму й ня ведаю тугі...
Цябе мілую да сьвітаньня -
з табой мы ў рэчкі берагі.

**Суніцы**

Ці то мне сьніцца, ці ня сьніцца,
ці то ўсё мроі, ці так ёсьць, -
зьбіраем мы з табой суніцы,
я - твой найдаражэйшы госьць.
Табе я прыгаршчы зьбіраю -
бяры, ласуйся, вось яшчэ...
А ты прыгожая такая,
што не адвесьці мне вачэй.
Суніцы вусны твае песьдяць -
куды памадзе той да іх!
Я нашы вусны хачу зьвесьці,
каб наша шчасьце на дваіх.
О, Божа мой, як лес нас лечыць...
Пабач, я ягад зноў прынёс!
А ўжо хіліўся долу вечар
і шэпт мацнейшым стаў бяроз...
А я ў вачах тваіх тапіўся,
і выплываў, уваскрасаў...
Курлыкаў жораў нешта ў высі,
калола ногі нам раса.
Я рады быў, што ёсьць на сьвеце
той чалавек, якога мне
ніколі з памяці ня сьцерці,
расчараваньне не кране.
Як мне паверыць -
ў небе зьнічка,
і Мройны шлях маіх надзей...
Гарaць,
палаюць
дзьве сунічкі
на вільчыках тваіх грудзей.

* * *

...На маёй Прыпяці
суладна і спакойна,
я тут сябе знайду
і адшукаю ціш...
З табою мне і радасна,
і мройна,
спытаюся ў цябе -
ты не адкажаш...
ты - маўчыш...

**Выклік**

Сьнягі, сьнягі... Да болю у вачах.
Няма вам ні сканчэння, ні пачатку.
Трымаю ў памяці зь дзяцінства згадку -
брыду ў сьнягах, мяне грызе адчай...
Твой сьлед лыжні - у заўтра дзьве дарогі,
і дзе прыстанеш ты - ня ведае сам Бог.
Калі б дагнаць цябе ў сьнягах я змог, -
то і кахаў бы, мусіць, да зьнямогі...
Сьнягі, сьнягі...
Прамень вас не кране...
Няма вам ні сканчэньня,
ні пачатку.
...Дарогаю згубіла ты пальчатку -
як выклік на дуэль паслала мне.

* * *

Стаю на вяршыні гары -
вышэй толькі сонца і зоры.
Твой ветразь далёка ўжо ў моры,
як факел у цемры гарыць.
Вышэй - толькі месяц і зоры.
Мне б крылы Гасподзь падарыў -
я птушкаю вымкнуў бы ў неба.
У воблакі вельмі мне трэба:
я з Богам тады б гаварыў, -
каб птушкаю вымкнуў у неба.
...Стаю на вяршыні гары.
Вышэй толькі сонца і зоры.

* * *

...Ня можа быць, каб шчасьце так адразу
звалілася, бы дождж у грыбную пару...
Я ж яшчэ не падрыхтаваў для кветак вазу,
бо ўсё яшчэ няверанньнем сваім гару...
Бо цэлы год цябе шукаў усюды-ўсюды.
і ўсіх вятроў, і месяца я ў небе апытаў...
Зьмірыўся з жалем - ня будзе болей цудаў,
як і не спыніцца ў шырокай Прыпяці вада.
Ты з воблакаў сышла і побач стала -
маўклівa, вінавата, з пяшчотай дабрыні, -
зь нябёсаў сініх сонца нас вітала,
і бласлаўляла восеньскія дні.
Мне цяжка ўсё ж у дзіўнае паверыць -
то казка мройная ці мой юначы сон?
Ніяк ня мог знайсьці каханай дзьверы...
...яны ж былі прачынены даўно.

**Сьняжынка**

Ты лёгкай сняжынкай белай
апусьцілася на зямлю...
Чароўная... Я нясьмела
позірк твой мройны лаўлю.
Уздрыгнула радасна сэрца -
знайшоў, каго доўга шукаў!
Я марыў, каб зноўку сустрэцца,
пра тое шаптала й рака.
...І раптам сняжынкі ня стала -
махнула мне белай рукой.
Зьдзіўленьне з сабой забрала,
пакінуўшы мне... неспакой.

**Алесь і Яніна**

У вячэрнім паўзмроку, на вяршыні таполі,
закаханых угледзеў - Алеся й Яніну,
а народжаных зь лісьця, і жвавых даволі -
яны ажываюць, як вецер гайдае галіны...

Вецер з боку яго - ён мілуе дзяўчыну,
вецер з боку яе - яна абдымае яго...
Так і мы... у жыцьці ўсё шукаем прычыны
альбо гнемся ў каханьні ад ветру таго...
На вяршыні тапалі ў вечаровым паўзмроку
заўважыў прывід я - Алеся й Яніну...
Мы жыцьцё вымяраем
па зьдзейсьненых кроках.
Заўсёды каханьню
нясем мы даніну...

**Пацалунак**

Дзень хіліўся на вечар.
Ты - на краі адчаю...
Ў цябе на душы пустэча -
я ж вечар табе прысьвячаю.
Вятрыска лагодны мроіць,
як твой боль суцішыць.
Ураньні было нас двое,
вечарам - месяц і ціша.
Ноч нарадзіла зоркі,
а маладзік - сярпочак...
Белыя два... узгоркі
цалаваць мой позірк хоча.

**Пік каханьня**

Палае тваё цела...
Я чую ўсхліп і крык...
Ты ўсё жыцьцё хацела
ўзьляцець да той гары, -
дзе сьнежныя вяршыні,
і дзе Каханьня Пік...
А ў грудзях сэрца стыне,
і страх адразу зьнік.
Там, на вяршыні шчасьця,
ня верыш ты й сама,
што хоча цябе ўкрасьці
Вясна, а не Зіма...

**Нараджэньне**

Цалую твае грудзі,
цалую твае вочы...
такога больш ня будзе,
ня будзе такой ночы -
вар'яцкай і салодкай,
пякельнай і віхорнай,
і доўгай, і кароткай,
адзінай, непаўторнай...
Бо дзе ж такое ў сьвеце -
такое й ня прысніцца:
сярэдначы - памерці,
а з сонцам - нарадзіцца.

**Парог**

Я цябе вымольваю ў цябе...
Я губляю розум
у сваёй мальбе...
Быццам абкрадвае
хто душу маю,
абяцае ўзамен
мне аддаць сваю.
Я цябе вымольваю ў цябе.
Ты ж - глухая
ў маёй мальбе.
Безуважная да мяне ты даўно,
і прыцягвае цябе не маё акно...
Хоць сто год праляціць,
і каханьне міне,
ён знойдзе цябе,
а не ты мяне...
І пакутам тваім
канца краю няма -
«Я за ўсё адкажу,
адкажу сама...»
Я цябе вымольваю у цябе,
даўно загінуўшы
ў сваёй барацьбе.

Дзесьці шэпт чуцён
^ пад маю тугу:
«Памагу табе я, памагу!
Я - магу!..»
Дзесьці с л ё зы і боль,
і пачатку - парог.
Дзесьці ісьціна ёсьць...
Не адкрыў яе Бог...

**Агеньчык**

На камінку гарыць агеньчык -
трапяткі, і яшчэ бязь сілы...
чую голас стамлёны нечый, -
ці каханай, ці проста мілай.
А на прыпечку сохне мята,
а на печы стаіўся нехта...
На прывіды вечар багаты —
палынамі дыхае лета.
На камінку гарыць агеньчык -
ці патухне, ці ўсё ж разарыцца?
А ў коміне вецер еньчыць,
б'е струменем зь зямлі крыніца...
Дзівасіл патыхае - вісіць усюды,
сьвятаяньнік мне сон прарочыць.
Чую ў коміне перагуды -
ціша складае песьню ночы.

**Уцёкі**

Я ад цябе хацеў схавацца ў Аўстраліі,
на далёкіх берагах Амазонкі, -
але чым далей ад'язджаў ад цябе,
тым больш адчуваў тваё прыцягненьне...
Глядзеў маўкліва я на халодны месячык,
на карагод таямнічых і чароўных зорак,
думаў: мо і ты ў гэты час
глядзіш у сузор'е -
і ў небе сустрэнуцца нашыя позіркі.

Адчуваў кожны раз, пад канец дня, -
пад вечар,
як клалася на спачын
натомленае працай сонца,
што ў мяне часьцей пачынала біцца сэрца -
ты пакінула мяне на зыходзе
халоднага дня...
І я тады міжволі стаўлю каля падушкі
чырвоны, бліскучы і
такі неабходны тэлефон,
думаючы: а раптам скрозь прастору часу
ты захочаш мне сказаць
усё ж галоўнае Слова...
Я ўцякаў ад цябе да берагоў Ганга,
я пёкся і паміраў у патэльні
жорсткай Сахары...
Але зразумеў, урэшце-рэшт, толькі адно:
не змагу я пражыць, каханая, безь цябе...

**Кола**

Ты гаварыла - вось вясна раськвітнее,
лугі аздобяцца пахкімі кветкамі,
зямля і дрэвы пачнуць
дыхаць каханьнем,
вось тады і прызначым сустрэчу.
Я нудзіўся доўгімі зімовымі вечарамі,
лічыў дні, чакаючы ўпарта той час, -
і ледзьве дачакаўся,
калі ажыла прырода
і выстраліў з почкі першы лісток...
Але ці то ты забылася пра абяцанае,
ці патанула ў сваіх душэўных клопатах,
наступіла ўжо і сьпякотнае
лета
жніўня,
а на лугах пахкія кветкі палеглі ў стагі...
- Не хвалюйся, я слова стрымаю, -
зноў чую ў слухаўцы тыя ж словы, -
вельмі люблю стракатую

ў лісьці восень:
вось і пойдзем на спатканьне зь ёю...
А ўжо і лісьцё апала нечакана долу,
і птушкі выправіліся ў
нялёгкі свой шлях,
а ад цябе ніякіх гукаў і слоў, -
відаць, пазьдзеквалася з маёй надзеі...
...Сьнег паваліў густа і шчодра,
схаваў глыбокія сьляды
і нашыя сьцежкі,
бы хоча, каб заблудзіліся мы з табой
у гэтай халоднай
і бялюткай Зіме...

**Вяртаньне**

Цябе мне не вярнуць,
як не вярнуцца лету, -
цябе мне не вярнуць,
як ні жадаў бы я...
Так не вяртаюцца назад
акторы і паэты, -
бо іх ня травень лечыць,
а ціхі лістапад...
Цябе мне не вярнуць,
як не вярнуць дзяцінства,.
цябе мне не вярнуць, -
пайшла ты назаўжды...
Такой цябе запомню -
з усмешкай прамяністай
і вуснаў покліч мройны -
крамяны, малады...
Цябе мне не вярнуць,
як не вяртаюць неба,
цябе мне не вярнуць, -
таго й ня хочаш ты...
І ў нябёсаў дапамогі
прасіць ужо ня трэба...
Бо адзьцьвілі каханьня
нашыя сады...

**Ручэй**

Ля нашых ног
ручэй булькоча,
сказаць табе ён
нешта хоча -
і ня ўмее...
Ён, мусіць, ад красы
тваёй нямее?!
Пяшчотна ногі
твае лашчыць
і лічыць тое ён
за шчасьце -
ручэй аж п'яны...
А ты сьмяесься
і шкадуеш:
«Божачка,
каб так каханы!..»

* * *

...Зьвечарэла... Аціхла вёска.
Сонца легла за лес на спачын.
Чую Прыпяці хваляў плёскат -
чэша сом свой бок аб карчы...
На душу наплывае суладзьдзе,
і тады ж замірае душа...
Сьпее ранет у матуліным садзе,
дзе я школы задачкі рашаў.
А цяпер тых задач - не адбіцца,
яны для мяне ўсё цяжэй і цяжэй...
Я словы зьбіраю, бы летам суніцы,
а ноч мне натхненьне маё сьцеражэ...

**Гукаю цябе**

Ты даўно для мяне чужая,
і даўно на мяне не зважаеш, -
і ня ўспыхне ўжо больш жаданьня,
каб прызначыць нам зноў спатканьне.
Быў маладзік і растаў дазваньня,

мы гарэлі ў агні - і згарэлі ў каханьні.
Ноч была - і ўжо стала дасьвецьце,
дзе ты побач была,
уладарыць там вецер.
Ты даўно для мяне чужая,
і натхненьня не нараджаеш,
на зямлю бяз крылаў спусьціўся,
зьнекуль стуль -
зь беласьнежнае высі...
А было ж, што ў агні вар'яцелі,
вышай зораў з табою ляцелі,
і здаваўся нам сьвет
неспатольным раем...
Мы ляцім і глухія
ў каханьні згараем.
Ты даўно для мяне чужая,
безь мяне ў свой край ад'язджаеш,
вочы ў вочы - нічога ня бачым,
мы сляпыя з табою, няйначай...
І ніхто нам ня верне былое -
вінаваты абое з табою.
Дык чаго ж ты са сноў
не ўцякаеш?
Я гукаю цябе...
Я гукаю...

* * *

...Калі магутныя ільдзіны разьбіваюцца
аб круты і непадатлівы бераг, -
ці баліць яму ад іх udараў?
Калі ж разьбіваюцца закаханыя сэрцы
адно аб другое, перапоўненыя пяшчотай, -
каму зь іх баліць найбольш?

* * *

ня трэба казаць,
што ўсё ў мінулым
ня трэба гаварыць,
што заўтрага ня будзе
ня трэба абяцаць,
што мы пра ўсё забудзем

дакляравацЬ ня трэба,
што знойдзем прытулак
а час і раскладзе ўсё па палічках
хаця ж як мы ня імкнуліся ўсё зыначыць
і неба не па нас з табою дажджом плача
і ня схавае нас больш
ад грому ў каплічцы

**Напамінак**

Цягнік імчыць па шэрай ночы,
і тлум вагонны сыціх паціху...
Насупраць - сон вачэй дзявочых,
і спадарожніцы, і німфы.
Сьхіліла галаву на рукі
і косы гожы твар прыкрылі...
Ня чуе аніякіх гукаў,
хоць мы і ўголас гаварылі...
Імчыць цягнік па шэрай ночы,
а колы стукаюць адчайна:
«Хай моцным сон будзе дзявочы,
хай ў снах яе сасьпее тайна...»
Я на перон ступіў бетонны -
у вёску родную пакрочыў...
І яшчэ доўга-доўга помніў
той сон цнатлівы, сон дзявочы.

**Прадвесьне**

Дзесьці заблудзілася маё каханьне,
хаджу,
сумую да самага раньня...
Іду да Прыпяці - крыгаход сустракаю,
і ціха некага ў цемры гукаю.
Ды не, ня верце... жартую...
Яшчэ сустрэну дзяўчыну тую -
лепшую ў сьвеце... знайду - паверце!

**Парасон**

...ці ж гэта сон, ці ж гэта сон -
то дождж паліў і парасон
схаваў шчасьліўцаў пад сябе.
А час секундамі грабе...
Мне б басанож,
мне б басанож
па гэтых лужынах прабегчы...
хацеў бы я... а ўсё ж, а ўсё ж
узрост усеўся мне на плечы.
Ты, дожджык, лі,
ты, дожджык, лі
на горад шэры і палі -
хай мокрыя сьпіна і ногі,
хай клічуць новыя дарогі, -
і ад дажджу нам не ўцячы...
...у нітках срэбных далячынь.
З дажджом — са шчасьцем, -
людзі кажуць.
І нас з табою не падмануць.
Не, то ня сон, так-так - ня сон, -
злучыў дзьве душы парасон...

* * *

...Птушку Кунегу бачаць ня ўсе,
а толькі тыя, хто закаханы...
Кунега сядае ім на плечы,
атуляе іх мройнымі крыламі,
як злучае душы назаўсёды, —
і сьпявае адвечную мелодыю
неразгаданага нікім каханьня,
чутную толькі ім абаім -

* * *

...калі дзьве душы імкнуцца
адно да аднаго - Ён да Яе,
ці Яна - да Яго,
а на іх шляху ўзнікаюць перашкоды...
дык хто ж ім, закаханым, замінае, -
Лёс ці - Бог?

Ліможа, і ніхто зусім,
а проста іх душы яшчэ
не сасьпелі для Злучэньня?!

## Сьвяты Валянцін

У дзень Сьвятога Валянціна
згараюць сэрцы ад каханьня,
яшчэ - ад шчырага прызнаньня
у дзень Сьвятога Валянціна.
З табой па воблаках мы ходзім
і вышыні ня адчуваем, —
адно аднога адкрываем,
калі па воблаках мы ходзім...
У той дзень ніхто ня хлусіць,
ня крыўдуе, ўсё прабачыць,
толькі добрае ўсе бачаць
у дзень Сьвятога Валянціна.
Нават сонца шле праменьні,
каб натхніць людзей, да Бога
асьвятляе ім дарогу, -
хто спазнаў ужо каханьне...
І дзьве спакутваныя душы
ўкленчаць перад Вышнім, -
так сьветла расьцьвітаюць вішні, -
мы - дзьве спатоленыя душы...
Мы дасягнулі дараваньня
сваіх грахоў, чужога грэху, -
ляціць у неба мрояў рэха, -
ня зможам мы бяз дараваньня...
У дзень Сьвятога Валянціна
згараюць сэрцы ад каханьня...
Ці дачакаюся прызнаньня
я ў дзень Сьвятога Валянціна?

## Вечаровае

Ноч...
Зоркапад...

Перасьпелая поўня
разам купаецца
з намі ў Сажы;
фыркаюць ў лузе
стамлёныя коні,
скінуўшы ў стайні
пастронкі, гужы...
Кроплі на твары,
як зоркі ў небе, -
бляск іх ад месяца зьзяе ўначы.
Сяньня сказаць
мне галоўнае трэба,
я ж як нямы...
ты таксама маўчыш.
Німфа ты з казкі
чароўнага Сожа, -
вусны ў вусны - ці саграшу? -
сьмелым мне стаць
ты сама дапаможаш, -
шал зухаватасьці ў сэрцы тушу.
Тулісься, шэпчаш:
«Сагрэй у абдымках...»
Колеш узгоркамі
сьпелых грудзей.
Лёгкая ты, як
жар-птушкі пярынка -
павай плывеш па вірлівай вадзе.
Ноч...
Зоркапад...
І - ружовая поўня.
Ськінуўшы ўсё,
мы ляцім па Сажы...
Самы шчаслівы
і ўсцешаны сяньня -
гінем з табой мы
на мройным крыжы...

**Антонаўкі**

Вакол стаяла цішыня...
Дрыжэлі зоркі ў шэрым небе.
Нам хвалявання ня суняць,
ты шэпчаш ціха: «Стась, ня трэба...»
Выглядваў месяц з-за аблок -
за намі ён сачыў, няйначай,
у вуснах я адчуў папрок
сваёй нясьмеласьці юначай.
Як сьнег пялёсткі сыпаў сад...
Мы расчынілі ў заўтра дзверы.
Ты ж не зрабіла крок назад.
І не зрабіла крок наперад.
Маўчым абое мы з табой
сярод дасьпелай пахкай ночы...
Між намі - мір. Між намі - бой...
Нам Бог каханьне напрарочыў.
З-за саду ўжо зара ярчэй,
і хутка ранак ноч украдзе...
Спаўзла рука твая з плячэй.
Антонаўкі апалі ў садзе.

* * *

...Ты ня верыш,
што я усё-ткі вярнуўся?
І хочаш, каб усё пачалося спачатку?
І што спрэчкі ніякай зусім не было
між намі, - тое толькі проста сон?
Дык чаму ж тады
ад поўні перасьпелай -
зыркай, сумнай і заўсёды маўклівай, -
нехта адшчыкнуў ладны кавалак, -
як не палову зь левага боку?!
Ці не здарылася тое ж і з намі,
калі мы думалі і верылі, што жывем
напоўніцу, а насамрэч, аказваецца,
што толькі напалову - з надкусам...
А мы па тэрцыі ўсё
стараліся выконваць
рамантычную рапсодыю прывіднага

і ўяўнага, калі ўжо на тое, каханьня, -
хаця нехта даўно ўкраў у нас ня толькі
музычныя і іншыя неабходныя прылады,
а і самае галоўнае: ненапісаныя
кампазітарам тыя ўзьнёслыя ноты...

**Імкненьне да мялёдыі**

Як асьмеліцца і цябе паклікаць
у той край, дзе цьвітуць лугі,
дзе ў хмельнасьці соладка-дзікай
пачуць шэпт і ўздых дарагі...
там пазбавімся мы ад тугі.
Там пазбавімся мы ад суму
і цяжару пакутлівых дзён,
недаверу атрутнага тлуму,
што ўсім нам скарачае жыцьцё...
і дзе заўтрашні дзень нам відзён.
І дзе заўтрашні дзень мы сустрэнем,
і дасьвецьцем разбудзім расу,
а пялёсткі квітнеючай пены
запляце табе сонца ў касу...
я ж каханьне -табе прынясу.
Я ж каханьне табе падарую -
сярод неба з табою стаю...
Ты мне сьмеласьць маю даруеш,
як даруеш нясьмеласьць маю...
- я ж табе ці не ўсё аддаю.
Я табе ці не ўсё аж да слова
ў прызнаньні сказаў неўпапад.
Прашаптаў табе чару-замову -
загадаў на квітнеючы сад...
- каб ужо не вярнуцца назад.
Каб ужо не вярнуцца... збылося...
Перайначылі ўсё мы ў жыцьці -
і ня Лета цяпер, і ня Восень, -
у п'янкім мы з табой забыцьці...
- нам з табою той крыж пранясьці.
Нам з табою не разьмінуцца -
вочы ў вочы - стагодзьдзе міне,

і ня здолеем азірнуцца,
хочам таго мы ці не...
- ці ўдзячны мы будзем Вясьне?

* * *

...Мне на цябе, дальбог, пашанцавала.
Ты - мой і Бог, і Сонца ў Хрысьце...
Мне як крынічкі сьветлай ня ставала -
не зганьбіць бы яе
ў жыцьцёвай гаркаце...

**Рамонкі**

Табе нясу я белыя рамонкі,
што ў лузе каля Прыпяці зьбіраў.
Яны нібыта сонца аскалёпкі -
шчаслівая гарачая пара.
А воблакі над намі - ветразь белы.
Палошча косы ў Прыпяці лаза.
З табой раблюся я заўжды нясмелы
і слова тое зноў ня змог сказаць.

**Малюнак**

Цябе хачу паклікаць у дарогу -
яна ж пакуль у кожнага свая...
І нас не напаткае сум, зьнямога, -
лягчэй абодвум крочыць удвая.
Мне бязь цябе і кроку ступіць нельга.
Ды нешта бавяцца мае даўно сваты...
...Ты кажаш мне, што я тваё сумленьне.
Пярэчу я: даўно маё сумленьне - ты.

**Іспыт**

Мы заблудзіліся з табой,
калі грыбы ў бары зьбіралі, -
пад дубам мы адпачывалі -

няўзнак заснулі мы з табой...
Калі прачнуліся, аднак
было нябачна нам нічога -
ні сьцежкі нашае, дарогі, -
уліплі мы, як сом у сак...
А ноч ахутала зямлю,
наўкола з сажы цёмнай цемра.
І што адбудзецца ця пера?
(Хаця ж з каханай ноч люблю...)
Маланкі, гром... І дождж паліў...
Няма мажлівасьці схавацца...
Што за праява, што за трасца -
дзе саграшыў? Як і калі?
Але на лёс ты не злавала,
глядзела ўмольна на мяне,
чакала - калі ж ноч міне,
хутчэй бы раніца настала...
А я ня ведаў, што рабіць,
уберагчыся як ад слоты?
Як паглядзіш на мяне потым?
А я, бязвольны, хоць забі...
Цябе туліў да свайго сэрца,
і я раськідваў свае крылы,
я загараўся з усёй сілы,
каб абаім нам як сагрэцца...
Я разумеў, што адбылося:
нам Бог паслаў выпрабаваньне...
Якія будзем мы ўраньні —
ці мы ратунку не папросім?
А раніцай я распаліў касьцёр -
запальнічка ж была з сабою -
іспыт здалі начы абое:
так загадала нам жыцьцё...
Быцця вірлівая рака -
мінула роўна паўстагодзьдзя...
Ці помніць тое мая Лёдзя,
што стала жонкай дружбака?

**Сьцежка**

Мы моўчкі крочылі
па вузенькай сьцяжыне
насустрач сонцу,
шчасьцю і вясьне, -
калолі ногі верасы нам і ажыны...
Ты сьцежку не праклала да мяне.
Чабор пахучы быў нам за пярыну,
пілі мы шчасьця хмельнае віно.
Гудзелі травы талакой пчалінай,
за сосны сонца ўкленчыла даўно.
Ня помню - сон то быў ці ява:
прачнуўся я - а лес ва ўсёй красе,
цябе ж няма... і што ж то за праява -
адно сьляды твае па ранішняй расе.
Гукаў і клікаў з цьвёрдаю надзеяй,
а рэха ў адказ: «Андрусь, я не твая!
Прывід я твой, не Дабрадзея...»
А ў верасах зумчыць пчаліная сям'я...
А час бяжыць, імкліва час імчыцца,
цябе шукаю ўночы я, і ўдзень,
быў там, дзе зорак сьлед іскрыцца,
але цябе знайсьці ня змог я анідзе...
Мы моўчкі йдзем па
зьвілістай сцяжыне
насустрач сонцу, шчасьцю і вясьне...
Прызнайся шчыра, і ўсё ж скажы мне:
дзе сьлед знайсьці твой заўтра мне?

**Вэлюм-фата**

...Раніца росная.
І - крыніца.
Задуха жніўная,
і побач - ты...
У вачах тваіх
радасьць бруіцца,
косы зьвісаюць
да самай вады.

Мы на востраве -
ў рознатраўі,
мы ўдалечы
ад людзкога жыцьця.
Неспадзеў цябе сяньня ўкраў я,
ты ж - цнатлівага часу дзіця.
Раніца росная
і - крыніца.
Твой прыглушаны ўздых:
- Любата!..
Над галавою ў цябе
німб бруіцца.
Мо гэта ня німб,
а вэлюм-фата?..

## Не з табой

Ты пахавала
ў памяці сваёй
усё, што зьвязана
зь мінулым...
І больш ня мкне
пчаліны рой
ў той край -
нектару і разгулу.
Там топча кветкі вецер-балаўнік.
Па нашых сьцежках
жоўты сьнег разносіць...
І чую я за рэчкай
птушкі крык, -
што не з табою
крочу па пакосе...

* * *

...што мне цяжка -
прызнаюся ворагу,
не табе - ад цябе
я ўцяку і памру, -
у нашым жыцьці
даецца ўсё дужа дорага -

і спакой, і каханьне, і вораг, і друг...
невыносна... прызнаюся ворагу,
хай узрадуецца -
зло мацней дабрыні;
калі ж здраджу свайму я нораву,
да цябе прыйду -
мне ня вер, прагані...

**Пра маўчаньне**

Не маўчы, не маўчы
ты ў гэтай начы...
Ноч згубіла ключы -
хоць крычы, ня крычы.
Там, за рэчкаю, ціш
нараджае вусьціш,
а над цёплай вадой
закіпеў сырадой.
Слова - даўкі камяк, -
як сказаць яго, як?
І ня вымавіць мне -
сьмелы толькі ў сьне...
НЬ маўчы, не маўчы...
Спаўзла коўдра з начы.
Б'юць крыніцы зь зямлі,
ранак сьпее ў гальлі.
Вінаватасьць сваю
не ўтаю, не ўтаю,
і, абняўшы цябе,
я панікла стаю.
Сэрцам чую, што так
не знайсьці мне ключы,
і нямее рука ў цябе на плячы.
Як чакаю чаго я
ў маўклівай мальбе...
...у туманах стагоў
я схаваю цябе.

**In vino veritas**

Хіліцца долу вечар...
Ты недзе чакаеш мяне...
Уздых я чую нечый -
боль мой мяне абміне.
Да вуснаў тваіх дакрануся,
у вочы твае зазірну...
Ты яшчэ не ў завірусе,
і маю не адчула ману.
Ты некуды ўвысь імкнешся,
бяз крылаў, у мроях сваіх.
Яніна ты ці Алеся?
Папрок я чую, ці ўздых?
А кроў закіпаць ня хоча,
тут, мусіць, ня вінен мароз...
Чаму ж ты хаваеш вочы,
не я ж цябе ў заўтра пранёс.
Не я абяцаў каханьне,
касьцёр наш даўно пагас...
Ня стрэліся, а растаньне
наканаваў нам адразу час.
Хіліцца долу вечар.
Ты недзе чакаеш мяне...
...Заснуў я п'яны на печы.
Няўжо ісьціна ўсё ж - у віне?

**Ня вер**

Ты мне, каханая, ня вер, -
ні словам палкім, абяцаньням,
замест сустрэч адны расстаньні
ня вер - ні ўчора, ні цяпер...
Ты - маё шчасьце і бяда,
ты - і усход, і захад сонца, —
кахаць бы нам, кахаць бясконца,
ды Еву ці кахаў Адам?..
Ты мне, каханая, ня вер,
і не глядзі аддана ў вочы, -
і сум няхай цябе ня точыць,

не страчу да цябе давер...
Ты - і загадка, і злы рок,
і сьветлы дзень адначасова,
табою сказанае слова
мяне ўзносіць да аблок.
І для мяне ты - ўсё цяп ер,-
ды разьвядуць жыцьця дарогі...
Шанцуе у жыцьці нямногім,—
як і ў каханы!і, мне павер...

* * *
...Дарог нялёгкіх ня бывае,
з дарог народзіцца бальшак...
Штогод блукаю я па краі -
пад ветрам я бы той вятрак..
Мяне туман сівы атуліць,
паспаць пакліча цёплы стог...
Прысьніцца ў сене мне матуля,
і мной пакінуты парог...

* * *
...не наракай на адзіноту,
ты ж - ва ўладаньнях цішыні,
і сьлёз ня лі ад мяне ўпотай,
і лёс свой горкі не кляні...
Нам у жыцьці ўсяго хапае -
п'ём слодыч, быццам горкі мёд...
І я - ня той, і ты - не тая,
і час - ня наш, не наш - і год...

* * *
...мне сьняцца касмічныя шалі,
пад нагамі абрус - Мройны шлях.
Каб жа так і ў жыцьці ўзьляталі,
і нас не ахопліваў кожнага страх...
Імкнёмся... куды? Хто адкажа?
Да зораў? Навошта? І для чаго?
Нясу на сабе ўсё жыцьцё я паклажу.
А што ў мяшку? Ды патроху ўсяго...

* * *

…спакой на душы не заўсёды ўтрымаеш
то слова параніць, то крыкне штось грак.,
і нешта няўцямнае ў сэрцы згарае,
а ходзікі кажуць: Цік-так? Ці ня так?

## Шчасьце зычу

Я ніколі цябе не паклічу
у той гай, дзе сустрэліся мы…
узялі мы з табою за звычай
ня пісаць ад вясны да зімы.
Вецер сьцюжаю
сьцежкі заносіць,
і тваіх мне сьлядоў ня сустрэць,
а прыходзіць ціхмяная восень -
усьцілае сьляды твае медзь.
За гарамі, за лесам, за часам
ты губляесься - стрэну калі?
Але ж марылі некалі: разам
будзем сад мы садзіць на зямлі…
Адзьцьвіло, адгуло наша лета,
і на вуліцы - цётка Зіма.
Ці было у нас светлае Гэта?
Пэўна ж, не, як і Тога няма.
Я ніколі цябе не паклічу
у той гай, дзе сустрэліся мы…
Дык чаму ж табе шчасьця я зычу
на пачатку бялюткай зімы?

* * *

…ты нечакана зьнік з вачэй,
як той туман сівы над Сожам,
цябе забыць мне час паможа,
а мо забуду і хутчэй;
а ты казаў мне «пачакай»,
пісаў прызнаньні на паперы, -
я і цяпер табе ня веру…

* * *

...а што ж нашэпча мне рака?..
І ты дабілася свайго.
Знайшла адзінае рашэньне
(як ад пакут знайшла збавеньне),
абвінаваціўшы яго.
Ды так, напэўна, і лягчэй -
ня трэба сэрцу хваляваньні,
сустрэч ня трэба і спатканьняў,
і мройна-горычных начэй...
Каханай толькі назаве
той, хто бліжэй і мае права.
Бо той ля сэрца, а ты - справа,
і тое месца - дзьмух! - сплыве...
І бачыш - нечакана н е -
шчаслівы вечар. А вось раньне...
Ты да сьмяротнага зьмярканьня
ўсё будзеш помніць...
Будзе так...

* * *

Сонцагляд...
Далягляд...
Залатыя праменьні.
Зацьвітае наш сад -
ён у белым кіпеньні.
Я на рукі вазьму -
панясу, як пушынку, -
толькі мне аднаму
йсьці з табой бяз супынку.

* * *

...гляну ў вочы-азёрцы
і ўтаплюся,
ўткнуся ў косы -
і ў мярэжы зайду...
Потым буду гарэць
у каханьнескрусе,
моўчкі чырвоным вінам
наталяць нуду...

* * *

...падкажы мне,
як нарадзіць раніцу,
бо пра нараджэньне
ночы
я ведаю...
птушак чую - ўзмахі крылаў...
Узьлятаю вышай, вышай,
колькі хопіць маіх сілаў...
Восень тчэ дыван стракаты
па ім ходзім мы, блукаем...
У лесе нам прытулак — шаты...
...Божа, Божа, ціш якая!..

**Мяцеліца**

Мяці, мяці, мяцеліца,
хай бельлю зямля сьцелецца...
А ў сэрцы радасьць сьпеліцца,
бо ты насустрач йдзеш...
І ў лепшае мне верыцца,
сьпявае мне мяцеліца,
што мне на плечы рукі
як крылы пакладзеш.
Мяці, мяці, мяцеліца,
хай ноч і дзень завеяцца,
хай сьніцца Навабеліца
у нашых палкіх снах..
Хачу табе даверыцца,
прызнацца і даведацца,
ў душы тваёй цьвіце вясна?
Не аціхай, мяцеліца,
хай сьнег мяце, кружэліцца,
на зорках месяц жэніцца,
ім німбам Мройны шлях, -
нам нельга разуверыцца
у тым, што з намі дзеецца,
мы шчасце з табой бачылі здаля.
Мяце, мяце мяцеліца,
і што ж то ў сьвеце дзеецца, -

згубілася ў туселіцы
з каханьнем і зямля...

**Вечарам**

Надвячоркам сьпеюць зоры,
то ліхтарыкі у небе.
Месяц нам каханьне дорыць,
да яго мне ў госьці б трэба...
Зьнекуль з воблакаў купчастых
мройнасьць ў душы наплывае,
і ня рэдка, і ня часта
мы гуляем з табой ў гаі...
Сьпеюць зоры, льецца ціша,

* * *

Чаму мне цёпла, як ты побач, -
як побач ты, то добра мне...
Я прадчуваю шчасьця слодыч,
калі крыло тваё кране...
Тады ж бураны завіхураць,
і будуць біць з дажджом грамы...
Складуць нябёсы партытуру,
а музыку каханьня створым мы...

* * *

...так, я прыйду, хоць не чакаеш ты,
і ведаеш, што больш сустрэч ня будзе...
З галін лазовых зіркаюць «каты»,
і цеплыня мне сагравае грудзі.
Чакай мяне і ранкам, і ў абед,
звані па мне ва ўсе званьніцы...
К табе я пракладу па цаліку свой сьлед,
каб ён ня змог у нябыцьці згубіцца.

**Спадзяваньне**

Я, напэўна, гляджу павярхоўна,
і зірнуць ня ўмею глыбей, -

мне здалося, табе ўсё роўна,
я ж - ніхто і нішто для цябе.
Мне скрозь зубы
працэдзіш «дабрыдзень»,
а ў паглядзе пустэча і лёд;
усё ж верыла: «Некалі прыйдзеш
да мяне. Хоць праз тысячу год...»
І ня ведала, нат не ўяўляла
(а ляцелі ж і месяцы, дні),
што ў душы маёй столькі схавана
і пяшчоты, і дабрыні...
І цябе ахапіла зьдзіўленьне:
«Мае словы - гаючы бальзам?
Няўжо для цябе я - натхненьне,
а што між радкоў ты сказаў?
А хаваў ты дарма ў камяніцы
і пачуцьці, і словы свае, -
не схацеў і са мной падзяліцца...
А ўвесь час мне цябе не стае...
Ды мне ў гэтым прызнацца няёмка -
сам жа ты здагадацца ня змог...
Ты ўцякаў ад мяне. Ці далёка?
А ўзьбіўся на мой жа парог...»

**Мроі ў палаце № 2**

Я ў бінтах — і за вакном чарэшня.
Я ляжу ў палаце - яна ж стаіць у двары.
Няхай я ад нараджэньня свайго грэшны,
а чарэшні, бязгрэшнай, нашто дактары?
Калі ж вочы мае праясьнелі,
нос прытуліў да аконнага шкла, -
стала адразу мне зразумелым:
то ж чарэшня няўзнак расьцьвіла.
Ня ў бінтах, а ў белых пялёстках
крочыць сьветла па кветнай вясьне...
Як каханка з далёкае вёскі
ў адведкі прыйшла да мяне...

## Алеся

За сінім небакраем, там, за лесам,
дзе сонейка ў калыску
спаць кладзецца,
дзе ранкам кожным мройная завеса
аб стромкі лес бакамі трэцца, -
я там сустрэў грыбной парою
дзяўчо-красуню з кошыкам лазовым...
Цяпер жыву хвілінай шчаснай тою,
і ня суняць мне
ў сэрцы словы, -
за сінім небакраем,
там, за лесам,
дзе сонейка ў калыску
спаць кладзецца...
Баравікі зьбірае
ў верасах Алеся.
А можа яна нейк
інакш завецца?

## Бермудзкі трохкутнік

*«...калі ж скласці чатыры*
*чорныя трохкутнічкі, адзін да*
*аднаго, то і атрымаецца чорны*
*квадрат Малевіча...»*
*(з падслуханага на пляжы)*

Я спытаў у каханай,
што такое каханьне...
«То Бермудзкі трохкутнік.
Заплывеш - прападзеш, -
занясе цябе ў вір
і затлуміць дазваньня...
І збавеньня ад путаў
ты ня знойдзеш нідзе...»
Хто пра чорны квадрат,
я ж - пра чорны трохкутнік,
што палае, гарыць
таямнічым агнём...

Ён — магніт,
ён - мялёдыя лютні,
ён - і шал, і распуста,
і - сьветлы анёл...
Два тугія ўзгоркі,
і трохкутнік прыкрыты
даланёю тваёй — як хаваеш яго...
Сарамліва маўчыш,
я ж - табою спавіты,
нешта мроіцца мне,
і ты ж хочаш таго.
І сягоньня я зноў
гару ў мройным палоне.
Мы зьліліся ў адно -
як яднаньня працяг.
Мы ляцім да Бермудаў.
Мы тонем ў бяздоньні,
і трохкутнік, як сонца,
дорыць слодыч жыцьця...
Нам той кажа квадрат,
што кахаць мы павінны...
Без каханьня мы ўсе,
што без хваляў рака...
Хто імкнецца ў нябёсы,
у востры клін жураўліны,
мы ж імкнёмся ў трохкутнік,
што ніжэй... ад пупка.

**Васількова чырвань**

***У сузор 'е за марай апантана***
***памкнуся, -***
***за вышываны ручнік -***
***Мройны шлях...***
***Адтуль мне бачна***
***ўся Беларуся:***
***на заснежаным***
***полі —***
***крывавы пісяг...***

**Айчыне**

*Уладзімеру Арлову*

Трызьню ў сьне
васількова-жытнёвым полем,
мрою штодня, што
вырасцеш волатам-Дрэвам, -
магутным і непахісным,
бы сымбаль Радзімы,
перакананы - так яно
будзе і сапраўды.
Бо навошта ж лёс выдзяліў табе
нечалавечыя пакуты
і жаданьне заставацца
на векі вечныя вольнай,
дамогшыся ўрэшце рэшт
сваёй роднай мовы, -
толькі на ёй мы ў Бога
адмолім свае грахі...
Трызьню росквітам тваім,
мая любая Айчына,
мрою сьветла, што слава
твая ўзьляціць да зораў,
зычу моцы Табе і
шчасьлівай Долі.
Перакананы - так яно
будзе і напраўду.
Бо навошта ж жыцьці свае аддавалі
слынныя сыны -
Касьцюшка і Каліноўскі?!
Выпрамімся. Уздымем горда
да неба русявыя галовы
і крыкнем ва ўсю моц нашых сэрцаў:
***«Роўная між усіх народаў***
***мая радзіма - Беларусь!..»***

**Мне - зямлю засяваць**

Мне вярніце маё. Мне
чужога ня трэба -
ні чужое зямлі, ні дарог, ні азёр,
чужой ласкі, чужога
жабрачага хлеба,
і што цела пякеліць - чужое рызьзё...
Мне чужога ня трэба -
маё мне вярніце,
што прымусам і гвалтам ад нас аднялі.
Не скарыўся чужым васілёчак,
што ў жыце -
сымбаль роднай ліцьвінскай зямлі.
Я ня зьгіну, мне не зьнікнуць
у гэтым сусьвеце,
хоць як нас ня душылі, кідалі
на згубу ў агонь.
Падымаліся ў рост са
штандарамі нашыя дзеці,
і малітву чыталі ўголас:
«Хрыстос, абаронь!..»
Мне чужога ня трэба -
усім сыты па горла
Мы бяз мовы і Бога - адно жабракі.
Колькі ж можна цярпець і
зьнявагу, і гора?
Нам жа шчасьце прарочыў
сам Бог на вякі
Мне вярніце маё. Мне чужога ня трэба.
Абдыму я рукамі
васількова-блакітны абшар..
Буду жыць я пад сонцам,
пад праведным небам,
поле жытам засею...
Я ж - Зямлі Гаспадар.

**Вера**

Я чужы сярод родных,
і чужы між чужых,
і няма мне прыстанішча
ў думках і ў небе...
Я хаджу па палетках,
тапчу сьцежку мяжы,
а Юда мне шэпча:
«Табе тое ня трэба...
І навошта радзіма?
І бадзяк - васілёк,
і расьце пустазельлем
на ўскрайку ў жыце...»
Ад Радзімы сваёй
не ступлю за парог,
ёй ня здраджу ніколі,
хоць жыцьцё адбярыце...
Я чужы сярод родных.
Я чужы між чужых.
І згубіўся ў Сузор'і,
што Ліцьвініяй роднай завецца.
Рэжуць сэрца бяз жалю
тупыя, з іржою, нажы,
разрываецца ўшчэнт
надарванае крыўдамі сэрца.
І ці ж мне наракаць
на пакутны свой лёс?
Сам сябе бяз прымусу
пхнуў
за тоўстыя краты..
Да Айчыны сваёй веру
цьвёрда пранёс,
таму зь верай ў яе
ці ня самы багаты!

**Пасьля паразы паўстання**

Добра сяньня быць сьляпым
і ня бачыць, што

творыцца наўкола
на абсягах роднага краю, -
нявідушчаму той хаос нябачны...
Добра сяньня быць глухім
і ня чуць, што адбываецца
круга цябе ў Ліцьвініі, -
глухому тое не завярэдзіць раны...
Можа, сяньня трэба
жыць бяз сэрца,
і ня адчуваць болю, які чыняць
пераможцы нашага супраць
прыгнёту паўстаньня, -
безсардэчнаму ўсё тое «да фені»...
Тады, можа, добра быць мёртвым
у сваёй раскрывянелай Айчыне,
і ня адчуваць, як
стогне і пакутуе Яна, -
дарунак Усявышняга, -
мёртвым жа
і сапраўды не баліць?..
Тады скажы, Кастусь:
як жа мне, інсургенту, жыць сяньня,
калі я маю вочы, усё чую, і маю сэрца,
і жывы пакуль, але
трываю з апошняга?
І ад Ойча пачуў я адказ-запавет:
- А на тое ты і Ліцьвін,
каб выстаяць,
усё чуць і бачыць, змагацца і -
не сагнуцца,
жыццё аддаць за радзіму -
і абавязкова перамагчы!
*(Зь дзёньніка паўстанца-інсургента Антона*
*Клімавіча пасьля паразы паўстаньня*
*1863 года, вязьніца,за гадзіну перад*
*шыбеніцай - 21 сакавіка 1864 года)*

## Сонца ўстане

Спатоль, Гасподзь, маю журбу
і ўсялі ў сэрца веру,
пазбаў людскога недаверу
і накладзі на страх табу...
Спатоль, Гасподзь, маю журбу.
А сонца ўстане - будзе дзень,
і зноў пачне круціцца кола,
ўсё пераменіцца наўкола,
цябе ня ўбачу - я ў нудзе.
Як распачаць мне новы дзень?
А дзе знайсьці мне тых сяброў,
што шчыра ў вернасьці кляліся,
а зжоўкла ўжо і часу лісьце, -
як хто паставіў ім таўро...
Ці трэба мне вяртаць сяброў?
Спатоль, Гасподзь, маю душу,
ад бруду ліпкага ачысьці,
дапамажы знайсьці
мне выйсце, -
твой крыж на сэрцы я нашу.
Спатоль, Гасподзь, маю душу.
Сябе я сам не падману,
сказаўшы, мусіць, так і трэба,
галоўнае - не
здабываньне хлеба,
а праўдай замяніць ману...
Тады сябе не пракляну.
Спатоль, Гасподзь, маю нуду,
і умацуй у сэрцы веру, -
тады я й сам сабе паверу,
што я цябе ўсё ж знайду...
Спатоль,
Гасподзь,
маю журбу.

**Вяртаньне да Бога**

Сьцеражы свар планіду,
сцеражы сваю Планету,
па якой штодня ты ходзіш
як галоўны гаспадар...
І няўцям табе пра тое,
што ад Бога як дарунак
атрымаў толькі пачатак,
што разумным яшчэ станеш...
Ты ж пра ўсё зусім забыўся,
палічыў сябе магутным,
што табе ўсё падуладна -
Неба, Сонца і Сусьвет...
Ад таго і ўсе няшчасьці
ад таго і, мусіць, беды,
што адрынуў ты сумнейьні
і забыўся, хто ж ты ёсьць...
Паўтарай за Ім малітву, -
зь ёю і засьцеражэньне
прыйдзе ў сэрца нечакана
пад завейны шум вятроў.
І, быць можа, акрыяеш,
і - быць можа - Бог даруе,
і апошні шанц-ратунак
дасьць вяртаньня да Яго...
...Распнуў Пілат Ліцьвінію на крыжы,
пад'южыўшы быдла для сьмеху: «Распні!..»
Падумай ліцьвін, а яму адкажы:
«Вырастуць парасткі там, дзе ё с ц ь пні!..»
(*З ліста паўстанца Антона Клімавіча
Кастусю Каліноўскаму ў вязьніцу -
20 сакавіка 1864 года)*

**Я зычу**

Я зычу кожнаму шчасьця,
пяшчоты, моцы і дабрыні,
каб не змагло нічога засьціць
дарогу ў заўтрашнія дні...

Каб у душы жыла спакойнасьць,
ад злыбяды бярог вас Бог...
Дзе б ня былі, а ўсё роўна
Айчыны вас чакаў парог.

**Матуліна слова**

*Нілу Гілевічу*

Кажуць, мова мая пакрысе памірае
пасьля цяжкай, працяглай
даволі хваробы...
Гэта песьня задужа, панове, старая,
задушыць нашу мову -
то даўняя спроба.
Тое баяць, напэўна,
манюкі-зласьліўцы,
да Радзімы любові ніколі ня меўшы, -
ў школе марылі толькі
з ангельска-расейскай
шлях у заўтра масьціць свой далейшы...
Насамрэч - мова мая
сапраўды памірае?!
То зласліўцы так меньцяць, паверце,
ім такія ж манкурты,
на жаль, патураюць:
«Белязык? Да не будут учить его дети!..»
Жыта сьпелае ў полі
прыгнулася ветрам.
Васілёк прытуліўся ў
нізіне на ўзьмежку.
Ад Чарнобыля колькі ўжо вёснаў і лётаў
не тапчу ў «мёртвай» вёсцы
я родную сьцежку...
І пляткарацць, што мова
мая назаўжды адмірае...
Як сьцярпець і стрываць
тыя гнюсныя зьдзекі?..
Мы ж загінем усе бязь
любімага краю —
і бяз мовы ці звацца, сябры, Чалавекам?

Бусел крыльлем вяслуе
крывавым у небе.
Я ж жыву сваёй даўняй і
мройнай замовай:
у жыцьці сяньня мне ўжо
нічога ня трэба -
толькі Бог захаваў бы
нам матчыну мову.

* * *

закладу аркушык пад чароўныя клавішы
націсну на патрэбныя - па выбары -
і народзяцца тыя адзіныя словы
якія і мусілі быць у тую ж хьвіліну
ноты на тыя словы пакладзе вятрыска
мялёдыю далучыць неспакойна-мройны час
а прачытаць усё тое здолее толькі той
хто шукае і бачыць толькі добрае для ўсіх
і толькі я адзін, на жаль, не здагадаюся
што хацеў сказаць напісаўшы
бо тое я і не рабіў, шчыра прызнаюся
нехта іншы падмяніўшы на час мяне

## **Неба**

*Івану Кірэйчыку*

За акном маім дзівосы -
ня кіно, не казка-дзіва,
не чароўныя прывіды,
што ня кожны і ўгледзіць,
а прыгожая рэальнасць
маю душу саграває...
- Прыкую я вас да ложка
трошкі болей за гадзіну, -
медсястрыца мне сказала,
уваткнуўшы шпрыц у вену, -
вось і будзе вам нагода
свае думкі перадумаць...
Кроплі сочацца з бутэлькі,
як бярозавік зь бярозы,

і ў маё слабое цела
уліваецца бадзёрасьць,
і прыходзіць спадзяваньне,
што і я на ногі ўстану...
Вочы прагнуць далячыні, -
і ў вакно я вылятаю,
расхінуўшы рамы насцеж, —
замест рук у мяне крылы
незямной, дзівоснай птушкі,
што да Бога далятае...
Зь Небам я даўно знаёмы
толькі тут раблюся вольным.
Сярод слынных сыноў, донак
адчуваю моц ліцьвіна,
і, усцешаны бязь меры,
сам ліцьвінам станаўлюся...
Вунь з тых воблакаў шыкоўных
выплывае мудры Вітаўт,
пад ім конь незацугляны,
з-пад падковаў ляцяць іскры
і запальваюцца зоркі
у празрыста-сінім небе...
Еўфрасіньня і Скарына
у руках трымаюць кнігі,
перагортваюць старонкі -
Біблію свайго жыцьця, -
спадзяюцца, што нашчадкам
паказалі шлях шчаслівы...
Там - Астрожскі і Рагнеда,
Усяслаў і Каліноўскі,
і Васілька, Вечка зь мечам, -
ды ўсіх і ня зьлічыць,
хто з аблокаў нараджаўся -
як гісторыі працяг...
Мы былі як сябры зь імі,
як ліцьвіны свайго Княства.
Разам з бож'ым сгіадзяваньнем
з горда ўзьнятай галавой
цьвёрда на зямлі стаім мы, -
бо народ мы нескароны...
Доўга б лётаў я ў аблоках,

і сустрэў бы ўсіх ліцьвінаў,
расказаў бы ім, што сяньня
мы іх помнім і шануем...
Ды пачуў я нечакана
мякькі і загадны голас:
- Хопіць вам адлежваць бокі,
мроіць любаю Айчынай, -
паўкіло жыцьцёвых кропляў
улілося ў вашы вены...
Мяне зноў сястра вяртала
ў бальнічную палату,
а я быў яшчэ на небе
сярод прывідаў-аблокаў, -
шкадаваў, што надта ж хутка
на зямлю я зноў вярнуўся...
...Заўтра зноўку там пабуду.
Як мне Бог тое дазволіць.

**Сейбіт**

*Генадзю Бураўкіну*

Іду я па мінным полі,
стужкай мне сьціснулі вочы...
Ці то сам я выбраў такую долю,
ці мне Бог яе напрарочыў?..
Крок ступлю -
узрываецца сэрца,
адначасна і радасьць -
яшчэ жывы!
А душа вырываецца,
птушкай б'ецца, -
яе клічуць зь нябёс журавы...
Другі крок - і губляю
сьвядомасьць,
ды не падаю - доўжу аднак бяду,
мрою - ў полі, ля роднага дома,
я босы зь сявенькай па полі іду...
Трэці крок - я раблю асьцярожна,
але дзесьці ў сабе я хаваю ўздых...
Усё жыцьцё пражываў

так дзень кожны, -
бы празь міннае поле - усе гады...
На чацьвёртым -
грымнула... ў небе, -
не адчуў чамусьці сваіх ног я і рук...
Плыў ужо птахай над
пульхнаю глебай,
радасна песьню мне баяў жаўрук.
Пяты крок - ні ў раі я, ні ў пекле, -
слодыч мройнасьці - радасьці ўзьлёт, -
як казала крушніцкая
бабуля мне Тэкля -
добра, як сьмерць саладзей за мёд.
Шосты крок - крычыць
нехта: «Ня трэба!..»
Ня пускае наперад... і
мне ж нельга назад...
Не пасею... як сейбіт у полі я хлеба, -
няўжо падсьцярог мяне ён - снарад?!
Сьпелым калосьсем хвалюецца жыта,
чую зь нябыцьця незабыты той гук...
Колькі стагодзьдзяў
няўзнак перажыла, -
поле ж маё дасявае
Андрусь - мой унук.

**Дарога**

Мы маем прад сабою
тысячы дарог,
але адна зь іх толькі
прывяла да Бога...
І Ён нам нарадзіцца
зноўку дапамог,
каб у цемрадзі
мы ня блукалі доўга.
І сяньня кожнага
прывёў Ён да сьвятла,
не дакараў, ня ўшчуваў,
што да Яго парога

ня тая зорка па жыцьці
нас кожнага вяла,
зусім ня тую па жыцьці сабе
абралі мы дарогу...
Цяпер, дальбог,
ня зрушым мы зь яе,
бяз стомы будзем
јјја сканчэньня крочыць, -
бо нам жыцьця бяз Бога
вельмі не стае, -
ня бачаць шлях
бяз Ойча нашы вочы.

* * *

Божа, Божа... За што такая кара?
Няўжо ад таго, што ня чулі Цябе?..
Няўжо ня зьдзейсьніцца
спадзяваньня нашая мара -
ідучы за ўсім сьветам у заўтра,
не адстаць у пашай імклівай хадзе...

* * *

Зайздросціць чужому шчасьцю - грэх,
і радавацца нечыйму гору - таксама...
нават час правіну тваю не сатрэ,
груз душэўны ня ськіве ні грама...
Незаўважна здараецца тое ў жыцьці,-
слова скажаш — і сябра пакрыўдзіш,
трэба ж з чыстым сумленьнем ісьці,
тады ты да нечага прыйдзеш...

* * *

Першы крок, і другі,
яшчэ - трэці...
Ад калыскі па доўгіх дарогах
нам бяз стомы ісьці і ісьці...
Мы ў даросласьці
быццам тыя матуліны дзеці, -
пракладаем бальшак свой
у нашым жыцьці...

* * *

Калі на душы і маркотна, і сумна,
мы выйсце шукаем заўжды з тупіка...
Нас адродзяць два ўзгоркі,
трохкутнік лагуны,
і вірлівая ў сховішчы шалу рака...

* * *

Хоць гадай, не гадай —
не ўгадаеш ніколі.
Хоць кахай, не кахай —
вынік будзе адзін...
Панясуць мяне ўвысь
безсьмяротныя коні,
і шчасьлівы я буду
хоць колькі гадзін...

* * *

Сонца грэе нас днём, грэе ноччу.
Месяц студзіць наш вірлівы шал...
Сэрца супакойвацца ў цішы ня хоча,
стаміцца бязглузьдзіцай хоча сьпярша... * * *
Сонца промні-косы мые ў плыткай рацэ.
Шампунь - глей і жвір адмысловы;
ты ўся зьмяшчаесься ў маёй адной руцэ -
ці патрэбны тут нейкія чароўныя словы?

* * *

...Іду да Прыпяці як да сваёй каханай,
штовечар іду, каб адкрыцца ўпотай...
Словы шапчу ёй пяшчоты аддана,
што лечыць мяне ад адзіноты.
Плёскат хваляў на роздум наводзіць,
шэпт іх мройны даўно разумею...
У нейкім шчаслівым пражытым годзе
яе параўноўваў я з белай лілеяй...
Іду да Прцпяці — як да сваёй каханай,
каб пачуць ад яе патаемныя словы.
Жаданьне у сэрцы жыве несьціхана,
жыву я каханьнем нязьведаным, новым...

## Спатканьне

Гукае ўначы дачушку матуля:
- Ты дзе, мая донька,
ты дзе, мая Юля?
А ночка маўчыць -
ні гуку у цемры;
пагубляла ключы -
і ня знойдзеш цяпера...
Усё чула дачка, -
усё зь ёю мы чулі...
Ды здушыла адказ мая мілая Юля...
Я яе ня пускаў, -
дый сама не хацела;
аж гарэла рука ад
дзявочага цела...
Гукае ўначы зноў
дачушку матуля:
- Доню, доню, ты дзе?
Адгукніся хоць, Юля!..
Глухой ночы рандо нас
схавала пад стусам, -
48 бо зьліліся ў адно
нашы губы і вусны.
Напіліся ўначы
асалоды і мрояў...
Ужо й маці маўчыць,
ўжо махнула рукою...
Я на крылах лячу,
і даўно ўсе паснулі...
Лес пытае:
- Адкуль?..
Адказаў:
- Я - а д Юлі!..

## Парог

Я - Цялец,
а ты - Цяліца.
Я ня сплю - табе не сьпіцца.

У паасобку не заснуць:
думкі
млосныя
гнятуць...
Я - Цялец, а ты - Цяліца, -
і ніяк нам ня злучыцца,
не паможа і сам Бог, -
Ён ня злучыць нам дарог...
Я - Цялец,
а ты - Цяліца...
...А я веру -
ўсё ж прысніцца
нам духмяны, пахкі луг...
Што сядзім мы ля крыніцы -
і касцёр наш не патух...

**Заручуся з бліскавіцай**

*Андрэю Федарэнку*

Шэрыя воблакі - не прабіцца.
Вышэй - зоры, і бездань далей.
Сьлепіць вочы мне бліскавіца,
не ляцець мне ў вырай, але...
Крылы зноў наліваюцца сілай,
дбайнай пругкасьцю, - і ўжо
смагу космасу наталіла, -
тут сваё я'натхненьне знайшоў.
Вырываўся ж зь зямнога палону
ў Галактыку... тут шыр і прастор.
Мне тут жыць, мне тварыць
тут да скону,
ложак мой - шлейф
прыручаных зор.
Асалоду і мудрасьць
адчуў у выгнаньні,
сярод душ чалавечых
сам зоркай гару,
буду слаць я адсюль ўсім
сябрам прывітанні,
закаханым пашлю

для пяшчоты зару...
У шэрых воблаках
мройна мне сьпіцца,
тут я - свой,
тут прызналі ўсе зоркі мяне...
Заручыўся зь нявестай -
сястрой-бліскавіцай,
і цяпер мяне доўга
ўжо сум
не кране...

**Тураў**

Старажытны, мудры,
на ўзьбярэжжы,
Волат Тураў-град..
Да сваёй славутасьці празь
сівыя ты плывеш стагодзьдзі...
Пісаў табе гісторыю маўклівы -
ў небе - зоркапад,
і Вышні верыў, што цябе у часе
слава і пашана знойдзе.
Прыпяць плыткая шапоча
днём і ноччу мройна нам,
што Зал атаву става зямля -
ад Бога, што яна - сьвятая,
яна пяройдзе ўнукам, а пасьля -
у спадчыну - сынам,
і Бог за памяць, на споведзі,
зь ліцьвіна
кожнага спытае...
Кірыла Тураўскі
ў Вялікім Княстве
нашым быў Прарок,
прасіў у Бога сілаў, верыў,
што і насамрэч так будзе, -
для нас яго Паэзія - да сьветласьці
Хрыстовай, як парог,
яго ўзьнёслая казань - мы Божыя ўсе
ў гэтым сьвеце людзі...

Узьняў магутнымі рагамі Тур
ў нябёсы і паданьні, і вякі,
і яго грозны і патрабавальны рык
мы чуем і сягоньня...
Плывем па зорным часе
хуткаплыннае Гісторыі-ракі,
плывем ад Прыпяці, ад Сожа і сівога,
ў часе, Панямоньня...
Над старажытным Туравам -
грамы з маланкамі
грымяць
А гэта звон зьвініць
у Божым храме -
і падаем мы ніцма...
Тысячагодзьдзі Тураву з царквой Хрыста,
над Прыпяцьцю, стаяць
і столькі ж яго сэрцу,
ў часе блаславёным,
гулка біцца...

**Паралель**

У маёй душы - і горыч, і сумненьне,
мяне нясе кудысьці тлумная рака...
Калі ж адчай, то чую адхіленьне
ад выбранага мною бальшака.
Чаго хачу? Таго я й сам ня знаю -
то нехта вінен мне, камусьці вінен я...
Сябе я зноўку ў нечым паўтараю,
і на душы цяжэй мне ўдвая.
А за акном злуецца
вецер бяз прычыны,
дажджынкі разьбіваюцца аб шкло.
Бярозка, схаладалаю дзяўчынай
просіцца у хату - у цяпло.
Ў маёй душы і горыч, і сумненьне.
Здаецца мне - я ад жыцьця ўбаку.
...Ды хто сказаў, што адхіленьне
не паралельна, урэшце, бальшаку?!

* * *

Наўпрост, Праз воблакі і зоркі,
імкнуся, спальваючы крылы...
Не наракаю на лёс часу горкі,
трываю, што ёсць моцы-сілы.
Там, дзесьці ў небе, каля сонца,
а мо й за месяцам халодным,
адкрыю тайну я да донца,
як адрадзіць мне край свой родны.
...Вярнуся ўжо я птахам зорным,
рассуну крыламі абшары, -
і ўжо ня будуць ілюзорна
мяне ў заўтра клікаць мары...

# Кужаль восені

***Зноў да мяне***
***пастукалася восень,***
***антонавак***
***насыпала ў прыпол,***
***яна ўраджай***
***зьбірае, атаву косіць,***
***пасьля дажджу***
***ўсіх не сабраць грыбоў,..***
***Пажоўклы ліст ад***
***дрэва адарваўся***
***і ціха на эцюднік***
***чысты лёг...***
***...Я цэлы дзень***
***намаляваць***
***стараўся,***
***і ўсё ж намаляваць***
***я восені ня змог.***

**Восень**

За сталом маім - зацішша.
За акном буяе восень.
Ветразь жоўты вышай, вышай
ўзьлятае ў неба просінь.
Вецер рве кашулю з дрэваў,
зямлю сьцеле жоўтым лісьцем.
Нам даўно з табою трэба
на сустрэчу зь лесам выйсьці.
Стромка-тонкія бярозкі
карагодам весьнім сталі:
«Вашы сьцежкі і дарожкі
трын-травой пазарасталі...»
Іх папрок шчымліва-шчыры
я прымаю, я прымаю...
Не скажу ім толькі праўды,
што мяне ўсё ж трымае.
Ды й мо тое не цікава, -
што ім лезьці ў маю душу,
п'ю гарэлку я, ці каву, -
я ж суладзьдзя не парушу.
Дый прызнацца не з рукі мне
прызнавацца, ў чым я вінен,
хай хоць гром у небе грымне,
ці каханая пакіне...
Я адточваю словы,
адшліфоўваю цаглінкі...
Пабудую палац новы,
на Багач спраўлю дажынкі.
За сталом маім зацішша.
...Пачуў восені трымценьне...
Не ўтрымаўся - і ўсё ж выйшаў,
каб знайсьці ў гаі натхненьне...

**Мядзьведзь на Палесьсі**

*Алесю Наварычу*

Белым пухам
занесла лясныя

сьцяжыны,
вецер дзесьці
ў лагчыне замоўк...
Сьпяць пад сьнегам
глыбокім чарніцы, ажыны,
прашмыгнуў непрыкметна
ля ўзболатка воўк...
Ціша ў лесе -
аж цісьне балюча на вушы,
ад яе мы адвыклі,
і адвыклі, напэўна, даўно;
ачарсьцьвелі ў тлуме тэхнічным
нашыя душы,
і паветра зь бензінам
мы п'ём, як віно...
Я спыніўся -
міжволі на твары ўсмешка:
не пасьпела яшчэ нат
зіма зазьвінець, -
і ўбачыў я цуд:
прылёг адпачыць
на узьмежку
паляшуцкі -
як сьнег белы-белы - мядзьведзь.

## Нектар каханьня

Для нас у збане - мёд.
Для нас у збане - горыч.
- Чаго ж там будзе больш? -
спытаеце вы ў нас...
Але - найперш -
мы будзем
піць
нектар
каханьня слодыч, -
а паспытаць другога -
мо і не прыдзе час...

* * *

Скачы, мой конь, па мурожных травах,
выбівай з-пад падковаў у неба зоркі.
Учаплюся я ў грыву, як у казку-праяву,
і ў адно імгненьне далячу да аблокаў...
Пыса мокрая, вочы - сьпелыя яблыкі,
сьпіна цёплая і рахмана-даверлівая.
Я ў гэтым сусьвеце нібыта карлік,
скажаце - вершнік, не паверу я...

* * *

Адно да аднаго мы йшлі
з табой зь дзяцінства...
Цябе не сустракаў ніколі,
ты ж - мяне...
Наканавана сьцежкам нашым
зьнітавацца-зьліцца,
калі крыло каханьня
раптам нас кране...
Табе я слоў яшчэ, каханая,
скажу багата...
Ты - мой анёл.
І сонца ў сіняй вышыні.
Хай кожнае імгненьне
будзе сьветлым сьвятам -
і ў радасьці мы пражывем
з табою сонечныя дні...

* * *

...Бог стварыў нас з табою -
Мяне і Цябе, даўшы
нам душу і сэрца,
неадольнае жаданьне
Адно Аднаго...
Але ў запаветах Сваіх строга
абмежаваў нашы памкненьні,
нават забараніў
кахаць напоўніцу, —
на мяжы вар'яцтва, -
не азіраючыся
у сваім каханьні...

Але мы кожным разам
чамусьці парушаем Яго запаветы,
адчуваючы пры гэтым
падсьвядомую віну...
...Дык - няўжо мы і напраўду
вялікія грэшнікі, і хіба ж мы
ў тым вінаватыя, што
нашае прыцягненьне
адно да аднаго -
мацней за нас саміх?!
...Слова - гэта магутная
энергія і зброя...
Калі ж яно прамоўлена
і вылецела з вуснаў тваіх
шызакрылай птушкай,
ды адрасавана ворагу
ці твайму сябру, -
то яно здольна ўзьнесьці
яго да аблокаў
альбо зрынуць адтуль на
брудную зямлю...
ці - зусім забіць альбо
адабраць розум...
...а Бог жа казаў, што
кожнае слоўца трэба
абдумваць перад тым,
як вымавіць яго,
бо нават і ў чыстым полі,
дзе і нікога,
здавалася б, няма і ніхто
не пачуе цябе, -
ёсць нябачныя вушы, якія
абавязкова зловяць
твой праклён ці пажаданне, -
і зьдзейсьніцца: на іншых,
альбо нават - на табе самім...
...дык мо - за лепшае -
зусім прамаўчаць?

**Прарок**

*Аляксандру Ісачову*

Пісаў. Пакутаваў. Тварыў.
Гарэў, як сьвечка. І - палаў.
Сябры, гадзюкі і зьвяры
жылі ля творчага стала...
Ня чулі мы, калі крычаў.
І сьлёз ня бачылі, як плакаў...
Ён вольна дыхаў па начах,
як быў адзін - правідца Якаў.
Пісаў. Пакутаваў. Тварыў.
Ня слухаў вокрыкаў паганых.
Ён крочыў да вяршынь гары,
жыцьцё было ў крывавых ранах.
А каб забыцца, удыхаў
атрутны водар асяродзьдзя,
і несла бурная рака
яго ў далёкія стагодзьдзі.
...пісаў... пакутаваў... тварыў...
Ішоў ад нас да сьветлых даляў.
Дабрыў ён да сваёй Гары.
Мы ж - як Хрыста яго расьпялі.

* * *

Мроі, мроі, мроі і -
горыч, замешаная на пяшчоце,
на балюча-салодкай мялёдыі,
ухваленай самім, мусіць, Вышнім,
кінутую табе пад ногі,
на аксамітны мурог нашай памяці...
Каб ужо ніколі ня зьведаць
вяртаньня ў наш боль
і пакуты, ведаць, што ў сваім
памкненьні даляцім да сваёй зоркі.
Але цяпер толькі паасобку -
каму ўжо якая даспадобы...

**Пастка**

*Уладзіміру Высоцкаму*

Аблажылі ваўка і сьцяжкі
паміж дрэў нацягнулі -
і пятля пачала заціскацца
тужэй і тужэй...
Вось ляцяць і сьпяваюць
над вухам пагрозьліва кулі,
і сапеньне стралкоў
чуе шэры бліжэй і бліжэй.
Чорнай рулі акно
пагражае сьмяротнай маланкай.
Сьнег крычыць пад нагамі
ў п'яных і злосных людзей.
Воўк нічога ня еў
ад далёкага воўчага ранку -
паратунку яму ўжо няма
ў сваім лесе нідзе.
Пачакайце! Трагічны канчатак
даўжэй адцягніце!
Хоць на хьвілю ваўку вы
прадоўжце жыцьцё, -
бо і сонца халоднае спрэс
спалатнела ў зяніце,
і ў ваўка абвастрылася
сьмерці шалёнай чуцьцё.
Гучны стрэл скалануў і сьвінцом
раскалоў навакольле,
сонца цёмнаю хмарай прыкрыла
ў жаху свой твар...
цяжар сьkінула сьнегу зь сябе
елак гнуткае гольле.
На ўзболатку ўспыхнуў
чырвонай каліны адвар.
...Аблажылі мацёрага. Пастку
ямчэй зацягнулі.
І ня вымаліць літасьці,
ведаў: ніякіх надзей...
Сьмела глянуў у твар ён,
сьмярдзючай ад пораху, рулі

і - завыў пераможна.
На сьмерць ён пайшоў.
На людзей.

**Мой Сож**

*Анатолю Зэкаву*

Духмяны водар пераспелых траў.
Туманы парныя на купінах дасьвецьця.
І ціша гойная - мая маўклівая сястра,
і спадарожнік мой - цнатліва-мройны вецер...
Брыдзем мы берагам з табою басанож
і слухаем, пра што сьпявае-шэпча Сож..
Як бор шуміць!.. Пчаліны перагуд
уплёўся ў песьню, што вяршыні сосен граюць
Палесься сьпеў... Я ў сэрцы берагу
любоў сваю да лепшага у сьвеце краю.
Пра тое я табе, каханая, скажу.
Яшчэ й яму - ціхмяна-добраму Сажу...
Душа збалелася - далёка вельмі быў.
А сьніў яго, як лепшага зь сяброў.
Суніцы сніліся, ажыны і грыбы,
і рэха звонкае старых даўно бароў.
Я разумеў, што у душы гарэў пажар -
мне не хапала майго добрага Сажа...
Сяброў па свеце я паразгубляў,
^зноўку ў гурт наўрад ці нам сабрацца...
Ў мяне радзіма ёсьць, і родная зямля,
каханая, і па душы ёсьць праца...
Я вестку дасылаю ў зорным міражы:
«Як хочацца мне пакупацца ў Сажы!..»
Духмяны водар пераспелых траў,
туманы парныя на купінах дасьвецьця,
і ціша гойная - мая натхнёная сястра,
і спадарожнік мой - цнатліва-мройны вецер.
Куды б ня зьехаў, а верыцца ўсё ж -
я да Цябе вярнуся, уладар і лекар Сож.

## Вяртаньне

Я тапчу нагамі травы,
абмінаю толькі кветкі, -
я ж даўным-даўно зьбіраўся
да прыроды у адведкі.
П'яніць пах мяне чаромхі,
сыпле сьнег на мае плечы,
адчуваю, як узьлесак
цішынёю мяне лечыць...
Гэта ж трэба, гэта ж трэба -
цэлы дзень ня чую стомы...
Я забыўся, хто я, дзе я,
ці чакаюць мяне дома...
Я падумаў: лес праведаў -
разгадаў сваю загадку -
ў лес пайшоў старым я дзедам,
а вярнуўся... немаўляткам.

## Раніца

Іду да рэчкі сьцежкай раньняй,
гляджу на Прыпяць я з гары.
Яна засьцелена туманам, -
ці Вадзянік так накурыў?
Схаваўся дзесьці бераг левы.
Аціх і вецер... Сонца сьпіць...
Яшчэ у с н е кусты і дрэвы.
А дуб, напэўна, дожджык сьніць...
Аеру цішаю такою
прызнаньне шэпча асака...
А салаўі ўжо за ракою
ажно пахрыплі ў лазьняках.

## Рэха

Пагукаю цябе, пагукаю, -
рэха скача як мячык - кахаю,
тваю сцежку

у жыце шукаю,
хто ад каго невядома ўцякае...
Чую сьмех побач
і недаўменьне, -
што не разгадаю я чару-здагадку:
ты з жытам зьлілася ў імгненьне,
стаіш без адзеньня, -
бы тое дзіцятка...

**Зіма**

Вецер прыгаршчы шпурляе
белай, хрумсткае крупы...
Пэўна ж, будзем з ураджаем,
будуць важкімі снапы.
І кладзецца сьветлай бельлю
на двары і па мяжы, -
добра сьцеле, шчодра меле -
бо зіма ж, што ні кажы...
Закаваў мароз ураньні
лёдам хвалі ціхіх рэк.
Памяняў вазок на сані
сяньня зранку чалавек.

**Мароз**

Скавытаў у завугольлі злосны вецер.
Ў застрэшшы чэрці баль спраўлялі...
На печы пахаваліся
ад страху дзеці -
іх санкі ў сенцах доўга сумавалі.
Праз тыдзень толькі
сьціхла навакольле.
Зноў поўня пасьвіць
распачала зоркі.
Вызвоньвае мялёдыю
вярбіска каля поля,
крышталёвыя перабіраючы
аборкі...

**Сны**

Нам начамі пераезды
сьняцца часта... паязды...
Мы ўсё едзем, едзем, едзем, -
ніадкуль і ў нікуды...
Касы нам даюць квіточкі.
А маршрут - альбо-альбо...
Зімой ў лета ўцяклі ўпрочкі -
басаножа бяжым з табой.
Не стамляемся пры гэтым,
не да сьпячкі летам нам,
і пяём радкі дуэтам:
«...сяньня - тут,
а заўтра - там...»

**Пуста-пуста**

Нам лёс падсоўвае да зброі
загадкі-патроны
(бо жыцьцё - гэта змаганьне
невядома зь кім і з чым),
здараецца, трапляеш
праменька ў цэль,
нават і ня цэлячыся ў тое яблычка...
Але ж можа быць усё
зусім і наадварот:
заганяеш у адтуліну бліскучы,
з куляю, патрон, цэлісься,
да сьлёз у вачох, цісьнеш
на спускавы курок, -
а зарад, аказваецца,
бяз капсуля і пораху.
Вось так здараецца і з днямі
ў нашым жыцьці
настроісься, выбераш добрую
і па душы мэту,
абрадавана закасаеш
рукавы сарочкі, нальесься
жаданым сьвербам

і нецярпеньнем работы-працы, -
а ён, д з е н ь,
пройдзе нечакана і прыкра,
акурат як фішка
выпадзе ў даміно, -
пуста-пуста...

* * *

...Сьцеражы сваю планіду,
сьцеражы сваю планету,
па якой штодня ты ходзіш
і глядзіш на лёс свой цяжкі...
Азірацца часцей трэба,
і глядзець, што заўтра будзе,
і штодня пра Бога думаць,
да Яго штодня зьвяртацца
з добрай, шчыраю малітвай, -
ну а зь ёю ў сэрца прыйдзе
і лагода, і спакойнасць,
і ты будзеш пераможцам
ва ўсіх клопатах трывожных, -
і тады ты зразумееш,
Хто кіруе ўсім жыцьцём...

* * *

Горад марыць быць сталіцай.
Дрэвы хочуць дыхаць чыстым.
Зорка ў небе не іскрыцца,
на душы - не ўрачыста...
Бомы сьціхлі, ноч кладзецца
на дамы цяплом-абрусам.
І ня ўбачу, мне здаецца,
я цябе пад мройным стусам...
Цішыня напята пнецца.
Вецер сьпіць у кронах дрэва.
Абяцаньнем не сагрэцца, -
спадзяюся я на крэва...

**Мазыр**

Адмысловая ўсё ж
                    у горадзе дарога -
цяжка падымацца і ісьці з гары...
Мо таму й машын задужа многа,
што
          багата
                    гор
                              крутых
у Ма-
          зы-
                    ры?

**Студзень**

Аб сцены шаруецца вецер,
па гурбах паўзуць касмылі,
у шыбы б'е зьмерзлае вецьце,
стаіўся мароз у гальлі...
Па пояс навалена сьнегу -
бяз лыжаў у лес не ўвайсьці.
Вунь заяц пад елкаю бегаў,
а во сьлед ваўка і лісы...
Трашчаць меднаствольия сосны,
і рэха ў пушчу ляціць...
Што ткуць адмысловыя кросны?
Чым хоча зіма нас зьдзівіць?
Карункі мароз панавешваў,
узоры - як казка, як цуд...
На сьнезе сляды - радкі вершаў.
Іх першы я сьпісваю тут...

**Зьнічка**

Прыходжу да цябе - бы да крынічкі,
каб смагу наталіць і астудзіцца ў сьпёку.
Я да цябе іду даўно, іду здалёку,
не маючы спадзеў, што станеш

маёй зьнічкай...
Малюся на цябе, хаця і веру ў Бога...
Сьвятой ты стала для мяне
даўно і - сонцам.
Згарае свечачка да дна, да донца,
а мне ніяк не пратаптаць к табе дарогу...
І ўсё ж жыве каханьне жыцьцядайна,
імя тваё, і сэрца, і душа - як зьніч сьвятое.
На шчасце, ты зусім ня ведаеш пра тое...
Як і ніхто і ня ўведае пра нашу тайну...

**Крушнікі**

Крушнікі - то, мусіць,
ад крушыны, -
тых дрэваў ў маім лесе
ня зьлічыць...
Гарыць, палае
за узболаткам каліна,
агнём палае зыркім уначы...
Позна спаць
кладуцца крушнічане,
і сонца ў ложку не засьпее іх...
Закаханым парам
аж да раньня
песьні будуць баіць салаўі.
Лабасова ў асацэ зьнікае -
пахаваліся ў асоцы берагі.
Тут заўсёды ў вёсцы
прыгажосць такая,
і па ёй мне ня затушыць тугі...
Адолькаў круг...
І - Спрымачоў...
І - Чэрцень...
Дзяцінства майго даўняга таго
разьнёс па сьвеце
валацуга-вецер,
ды не растрос
ён толькі аднаго, —
маркоты па табе, мой краю,

што сілы даў
і вывеў на прасьцяг...
Я ад таго цябе й не забываю,
і бачу
часта
ў сваіх згадках-снах...

**Касавік**

Сьвішчуць косы, пяюць косы
і кладуць траву ў валкі.
Сонца сьпіць за лугам росным,
сьпяць самы на дне ракі.
Рад у рад - ідзем старанна,
ў нас мянташкі і брускі...
...і прапах цнатлівы ранак
потам горычным людзкім.

**Свавола**

Туманы шызыя паснулі,
стагі падклаўшы пад бакі.
Бярозы зжоўклую кашулю
за ноч згубілі ля ракі.
Дажджы аціхлі... У садзе пуста...
І - адышлі баравікі...
Ды толькі модніцу-капусту
мароз шчыкае за бакі...

* * *

...калі ў мяне ня будзе паперы
калі ў мяне высахне
ў чарніліцы чарніла
і калі мне захочацца ў той жа час
напісаць табе самы галоўны ліст
то я вазьму самы шырокі кляновы
толькі што апалы яшчэ
цёплы «аладак»
абмакну ў вірлівую Прыпяць

галінку бэзу
і напішу табе на жоўтым
яшчэ не кранутым
ніякім пісакам прасторным
і светлым полі
самую ўзнёслую паэму-рапсодыю якую
яшчэ ніхто і ніколі ў сьвеце не ствараў
і калі ў цябе зашчыміць
ад нечага сэрца
і ты сама ў сябе спытаеш з чаго б гэта
то ня вельмі напручвай свае думкі
бо ніколі ў сьвеце ты не здагадаесься
і не раскрыеш гэтую
прыдуманую тайну
якая будзе непадуладна нікому-нікому
нават і я забудуся пра яе

* * *

...З кроплі нараджаецца крынічка
з крынічкі нараджаецца раўчучок
а з раўчука - рэчка, якая неўзабаве
ўпадзе ў вялізнае і прасторнае мора...
А ці народзіцца з нашага першага
позірку вялізны і магутны Акіян?
Акіян узьнёслага каханьня і пяшчоты...
Ці мы проста не ўбачым адно аднаго?

**Не наракай**

Ня трэба наракаць на Бога,
што ён вам шчасьця
ня прыносіць,
бо за душой у вас - нічога,
ў ёй асьцюкі,
дый бяз калосься...
Царква для вас -
дарунак моды,
туды ідуць ужо й парцейцы,
ніяк ня ськівуць
зь сябе лейцы,

што так аблыталі народы...
Ня трэба крыўдаваць на Бога,
што не дае чамусьці шчасьця, -
не разьвітацца вам
зь няшчасьцем -
вы ж самі выбралі дарогу...
Ня трэба наракаць на Бога.

* * *

...Пачынаю год з надзеі.
Пачынаю год з казкі.
Спадзею маючы, што
ўсё зьдзейсьніцца,
што сьцежкі дабрыні
не зарастуць травою,
і Хрыстос ачысьціць нас ад бруду...
Пачынаю год, гледзячы на зоркі,
прыслухоўваючыся да клёкату вятроў,
верачы, што пад напорыстым ветрам
завіхурыць і мой працоўны вятрак...
Пачынаю год з надзеі,
з любові да ўсяго зямнога,
робячыся громаадводам
ад бедаў і навальніц,
забіраючы чарнобыльскую злыбяду
і гора ўсяго сусьвету.
...Год адлічыў хвіліны,
на комін усеўся стамлёны вецер.
Па цаліку і нерушы —
напрамкі ўбок сонца -
пайшоў скрываўлены Хрыстос...

# Чарнобыля чорны чабор

* * *

***Хто прыдумаў атам?!***
***Хто навучыў яго***
***расшчэпліваць***
***і «выкарыстоўваць***
***у мірных мэтах»?***
***Мусіць жа, - чалавек...***
***А хто наслаў сьмерць***
***на яго, на Чалавека?!***
***Мо Сатана?***
***Мусіць жа, самы галоўны***
***злачынца -***
***сам ч а л а в е к . . .***

**Малітва**

Я ўваходжу ў Боскі
прасторны і сьветлы храм,
несучы ў дрыжачых
руках васковую сьвечку,
іду да алтара і малюся, зьняможаны,
запальваю яе ад
суседніх агеньчыкаў...
Я стаўлю яе побач зь
іншымі жывымі душамі,
і чую, як пахне церпка
аплаўлены воск,
і тады ў мяне ўзьнікаюць
розныя асацыяцыі,
і я бачу сябе ўжо
сярод пчалінай нематы...
Малюся за ўсіх памерлых -
прымусова ці
па сваёй волі, - да чаго
падвялі злачынцы,
на маёй радзіме і далёка
за яе межамі,
за атручаныя рэкі і высахлыя лясы,
за хворых птушак і
бяскрыўдных паўзучых...
Малюся няўмела, адчуваючы
аднак у сабе сілу,
адзначаючы радасна, як
нараджаецца ўва мне
воля, якую стараліся адабраць
за ўсе гады, -
у мяне пачалі мацнець ногі і
сьвятлець розум,
і таму сьцвярджаю упэўнена: ніколі ў
жыцьці Бог ня быў
опіумам для свайго ж народа,
які любіў Яго...
Божа, ня лічы сваімі ворагамі
нясусьветных
і нічога не разумеючы«

манкуртаў-дурняў,
якія і мовы аціраліся,
і на Цябе забыліся,
якія самі сабе ж пераразаюць
горла іржавай,
імі ж, некалі адкляпанай
для сьмерці, касой,
якія не навучыліся маліцца
і шанаваць Цябе.
Цябе, Які сьветла і сьвята
зьзяеш наперадзе.
Божа, не карай невідушчых,
бо ня бачаць дарогі,
той, па якой ісьці ім трэба
і якая вывядзе ў сьвет,
да сонца і праўды, да
шчырасці і лагоднасьці.
Да разуменьня свайго
зямнога прызначэньня.
Людзі ня ведаюць,
як вымаліць у Цябе спагады,
як адмаліць свае грахі
і адшараваць каросту
ад цела, якое закарэла
за гады бязьвер'я,
як навучыцца разумець
Цябе і сябе таксама,
бо самае страшнае -
ня ведаць пра сябе
а н і ч о г а .
Божа, Ты існы Прарок і Натхніцель,
Прадказальнік, - чакаеш, калі ж
разумная малпа ператворыцца
ў чалавека...
А чаканьне Тваё зацягнулася,
як і задоўжылася,
урэшце рэшт, ператварэньне
малпы у Чалавека...

## Вёскі-нябожчыцы

*Міколу Мятліцкаму*

А ў Стралічаве стронцый «страляе».
І плутоній... Т - цэзій... Адчай...
Што зрабілі з кутком маім - раем?!
Зьнікнуць можа і ён на вачах...
І Баршчоўкі ўжо хутка ня будзе, -
там, дзе Бабчын, сабак завыцьцё.
І пра вёскі так скажуць людзі:
«насаўсім адышлі ў нябыцьцё...»
Паляшук жа паставіць ім сьвечку
і спытае: «Ці ж будзе вясна?..»
Вёска родная жыць будзе вечна,
болем жыць ме ў мроях і снах...
У Стралічаве стронцый «страляе»...
Хоць нябачныя стрэлы маўчаць...
Што зрабілі з кутком маім - раем?!
...Гіне Палесьсе маё на вачах...

## Я - з Чарнобыльскай зоны

*Віктару Казько*

Я — з чарнобыльскай зоны.
Я тут жыў і памёр, -
тут канае і сяньня
мой ля Прыпяці Бор.
Тут у бортні да верху
пчолы носяць свой мёд, -
так ад веку да веку,
і так з году ў год...
І няўцям працаўніцам -
долу мёд той цячэць...
тых прысмакаў баіцца
чалавек - бо то сьмерць.
І вада стала горкай -
як атрута яна,
пад Чарнобыльскай зоркай
косіць душы вайна...
Я - з чарнобыльскай зоны.

Край мой любы ў труне, -
і ня думаў, што сяньня
зноў распнулі мяне
адшчапенцы, манкурты,
розны здрадніцкі друз, -
хочуць зноў кінуць ў пекла,
у сканалы «саюз» —
ды зь нянроднаю мовай, -
тры стагодзьдзі чужой, -
мне бяз роднага слова
дыхаць нельга ўжо...
Я — з чарнобыльскай зоны.
Зона - родны мой край...
Нам ня быць пад прыгонам...
На зямлі сваёй - рай.
Не хачу пад чужынца,
я - ня «кучка людзей» -
роднай мовай маліцца,
што да шчасьця вядзе...
Я — жарынка пад прымакам, -
вецер толькі дзьмухне, -
ўзьецца полымя высака -
і ажывіць мяне...
Пад штандарам, пад промнямі
мы ў сьвятой барацьбе
ўзыйдзем з Сонцам над гонямі -
абаронім сябе.
Вось чаму я паўстану,
ажыву зноў і зноў,
зажыўлю Маці раны,
што крывяняць даўно.
Мы ж на роднай зямельцы -
дома ж мы, не ў гасцях...
Пракладзем сабе сэрцам
той, што выпаў нам, шлях...

**Вязень**

Жыву, як у турме...
Прыроды я баюся.

Шлагбаум між намі -
як нябачная сьцяна.
Ня сьніў я нават,
што грымне ў Беларусі -
Чарнобыля жахлівая,
нябачная вайна...
У снах трывожных -
бачу лес за полем,
і быццам бы нясу кош,
з коптурам, грыбоў...
Не паляшук цяпер я,
ня грыбнік, тым болей -
не чалавек зусім,
а вязень я, дальбог...
Хоць рукі-ногі маю -
не хаджу па лесе.
І ў роднай Прыпяці
лавіць баюся шчупакоў.
Аж Бог жахнуўся -
у труну кладуць Палесьсе:
атрутна-чадны пыл
ляціць на травы з бальшакоў...
Як грыб мне ўзяць,
калі ў ім наскрозь нукліды?
Чарніцу як сарваць,
з плутоніем у ёй?!
За мной паўзуць гадзюкай
і гоняцца прывіды;
і ў сваім лесе - я зусім
чужы, ужо ня свой.
Ці не Табе маліўся,
Божа, днём і ўночы,
бо верыў, што ў Табе
свайго Заступніка знайду.
Жыць людзям страшна...
невыносна, Ойча!
Няўжо адпрэчыш, не зьвядзеш
на лес сухі бяду?
Дажджом атрутна-горкім
набрыняла неба.
Я - крык Чарнобыля -

тапчу яшчэ зямлю.
Як ад бяды ўцячы, аббегчы
сьмерць мне трэба -
я за ахвяраў дапрацую,
дасьпяваю,
далюблю...
Жыву, як у турме... Ня выйсці
мне цяпер
нікуды -
нябачнымі цьвікамі я прыпяты
да сцяны.
...І сьніў, і ведаў:
у душы нашы
ўшыўся Юда, -
мы ж з Богам ваявалі
доўга -
бяз вайны...

**Распнутыя на крыжы**

Каторы год мы ўсе
жывем пад страхам:
«Што з намі будзе? Божа, адкажы...»
Упала з крыламі на дрот
скалечаная птаха -
то нас распнуў
Чарнобыль на крыжы.
Была эпоха... Быў дыктат Саюза -
рабом сагніся, моцным - не пярэч:
народ - ня людзі, яны -
рэшткі друзу...
А крыж пакутны
як прырос да плеч.
Зірніце пільна ў вочы,
людзі, беларусу, -
у іх - і боль, таемны
страх, адчай...
Яго зь зямлі сарвалі па прымусе,
якая сьніцца ў мроях
горкіх па начах...

Хрыстос укрыжаваны
быў за нас, вядома.
А за каго, скажыце,
пакараны мой народ?
Вяз поля роднага і матчынага дома...
А ў новым месцы -
не пладлівы агарод...
Мы вінаватых
сяньня ўжо,
на жаль, ня знойдзем.
Ды што шукаць -
судзьдзёй няхай ім будзе Бог.
У нас як на Палесьсі
кажуць у народзе?
«На покуць - праўду,
хлуса - за парог...»
Ты памажы нам, Божа, Літасцівы,
ўстаць з каленяў -
мы молімся і спадзяёмся
толькі
на аднаго Цябе...
Бо верым: за Хрыста
ўкленчыць
прыйдзе пакаленьне,
каб вымаліць збаўленьне
і ратунак у мальбе...
Жывем мы ўсе
пад чорным землятрусам.
Ці зможам пзта ўсё
мы з вамі перажыць?..
Жыве тут мудры чорны бусел
пад прымусам,
бы мой народ, Чарнобылем
распнуты на крыжы...

**Радыяцыя**

Добра ля мора! Цудоўна
ля мора!
Паветра гаючае, ўдосталь

і сонца!
Тут забываеш
пра злыбяду, гора,
і жыў бы ў локтэбельскім
раі бясконца.
Добра ля мора... Цудоўна
ля мора...
Нябачна у небе вяршынь
Кара-Дага.
П'ю сьмела ваду і паветра
прастораў,
і дождж успрымаю зь дзіцячай
адвагай...
Нямілы стаў дом...
Вораг там — вецер...
Дзікая сітуацыя -
ня хочуць
вяртацца
дадому дзеці -
бо дома -
ра*
ды*
я*
цы*
я!..

* * *

...Гады - як лісьце ў лістападзе:
долу ападаюць штохвілінна...
Журбу я ўбачыў у тваім паглядзе,
а ты ж шчаслівай быць павінна.
Што ж адбылося, здарылася раптам?
Няўжо Чарнобыль так пакрыўдзіў?
А спадзяваньняў ў сьветлае багата,
хто ж ведаў, што ўсё яно так выйдзе?
А, можа, памыліўся я ў здагадках, -
то шэрань неба ў вачах іграла?
Ў душы і ў целе - ўсё ў парадку,
і радасьцяў штодня ў цябе нямала?
Ну, усьміхніся, разгані сумненьні,
стань зноўку той,

ранейшай і шчасьлівай.
Што заўтра нас з табой сустрэне -
ці зацьвіце каханьня наша ніва?

**Мроі вясны**

А я цябе даўно ўжо не чакаю,
і пра цябе даўно ня бачу сноў...
Не да цябе сьпяшаўся ў гай я,
ня ты прызначыў мне
спатканьне зноў.
Чаму ж тады цябе я ўспамінаю?
Чаму твой голас чуецца ў цішы?
Малю цябе, прашу і заклінаю -
забыць цябе ты сам мне памажы.
Цьвітуць сады, і пах
мне кружыць голаў -
я радуюся сонцу, кветкам і вясьне.
Да раніцы мы зь ім блукалі ўчора,
і ён назваў усё ж каханаю мяне...
Вясна, вясна, як добрай чараўніцы
табе нясу душы сваёй давер, -
з табою толькі хочу падзяліцца -
майму ты шчасьцю горкаму ня вер...
Бо кожны дзень Чарнобыль ўспамінаю,
і крык людзей мне чуецца ў цішы...
Прашу, вясна, я болей
сіл ужо ня маю -
пазбавіцца ад болю
ты мне дапамажы...

# На крылах мялёдыі

* * *

***Добра, калі ў душы***
***жыве песьня,***
***яшчэ лепей,***
***калі ў песьні***
***жыве душа, -***
***тады такое ядnаньне***
***дае вельмі добры плён,***
***і тады чалавеку***
***ўжо нічога***
***ня страшна -***
***ні завея, ні слота,***
***ні журба, -***
***Чалавек***
***абаронены***
***ад усяго...***

**Іголка**

Над зямлёю роснаю
сонца нізка хіліцца,
і ахутвае кусты вечаровы змрок...
Не магу, каханы мой,
я ніяк асьмеліцца -
да цябе як падысці,
зрабіць першай крок,
да цябе падысці -
зрабіць першы крок.
Я хаджу адна, блукаю,
ад цябе пяшчотных слоў чакаю.
За табой брыду я сьледам,
але так, каб ты ня ведаў.
І жыву я з думкай горкай -
нітка я, а ты - іголка...
Але так здараецца,
вы і не паверыце, -
перайшоў дарогу
. мне ён ці знарок...
І заблытаўся тады ж
у мройным нераце,
і баіцца сам ён ступіць
першы крок,
і баіцца сам ступіць
ён той першы крок.
Я хаджу адна, блукаю,
ад цябе пяшчотных слоў чакаю.
За табой брыду я сьледам,
але так, каб ты ня ведаў.
А цяпер мне ўжо й ня горка -
хто ж з нас нітка, хто - іголка?
Для мяне беражэ
тыя словы адзіныя,
і я веру ўсё ж, што яны ў цане...
Дачакаюся ўсё ж той
шчасьлівай гадзіны я,
калі ён назаве ўсё ж каханай мяне,
калі ён назаве ўжо каханай мяне.
Ходзіць ён адзін, блукае,

ад мяне адказу ўсё чакае,
ён за мной - і ўдзень, і ўночы, -
толькі б ня сурочыць...
Мне цяпер ужо ня горка:
ён - мая нітка, я - яго іголка,
ён - мая нітка, я ж - яго іголка...

**Тваё імя**

Нечакана задажджыла на двары,
і здаецца мне, што не вясна сягоньня,
што дачакаўся летняй я пары
і крочу басанож па цёплым абалоньні...
Вясна, вясна... Трывожыш сэрца мне,
за Прыпяць мкнуся, дзе ціхмяны неруш...
Хай памяць аб мінулым не міне, -
а ў будучае наша я і так паверу...
І думаю я пра цябе штодня,
і словы для адной цябе люляю:
«Хай сонцам сьвеціцца тваё імя,
тваё імя ў радках я ўслаўляю...»

**Німфа**

Ты выйшла з рэчкі німфаю
ў кроплях-блёстках сонечных.
Гляджу я - і ня дыхаю,
скажу табе ўсё сёньнячы.
Каханая, каханая, -
шапчу табе на вуха я, -
адзіная, адданая,
тваё я сэрца слухаю...
А луг засьцелен коўдраю -
туманам, як пярынаю.
Ляціш ты птушкай гордаю,
рыхтуесься да выраю...
Каханая, каханая! -
крычу табе ў нябёсы я, -
адзіная, адданая,

з крыламі бялёсымі.
Ты выйшла з рэчкі німфаю
ў кроплях-блёстках сонечных,
сьціскаю ў абдымках я -
прызнаўся табе сёньнячы...
Каханая, каханая!
Навек з табой злучыліся.
Адзіная, адданая -
пра час з табой забыліся.

**Валянціна**

Валянціна, Валянціна...
Я імя шапчу ў сьне,
ты - як ветразь брыганціны
ўсхвалявала сэрца мне.
Я ў вачах тваіх шукаю
промні к сонечны - адказ.
Ты ж зьнікаеш, ты ж зьнікаеш,
а мне кажаш кожны раз:
- Я ня веру, што кахаеш,
веру толькі я Сажу.
Я - такая. Я - такая,
праўды ўсёй. і не скажу.
Валянціна, Валянціна!
Я імя шапчу штодня.
Гіну, гіну ў тваёй ціне -
ты мне больш нат, чым радня.
А ў вачах тваіх іскрынкі -
ці то зьдзек, ці то адчай, -
мы з табой дзьве палавінкі
таго шлюбнага ключа...
- Я ня веру, што кахаеш.
Чым дакажаш тое мне?
Калі ж прыйдзе хвіля тая -
можа сто гадоў міне.
Валянціна, Валянціна!
Зноў з табою мы ў вясьне...
Сяньня ты сказаць павінна -
ці кахаеш... альбо - не...

Сьмех і зьдзек ў тваім паглядзе.
Чаго больш - ня ўцямлю сам...
Сьпеюць яблыкі ў садзе,
ногі студзіць нам раса...
- Я ня веру ўсё роўна...
Што ж нясмелы ты такі?
...Ветразь белы.
І мы ў чоўне -
пасярэдзіне ракі.

**Сустрэча**

Я чакаю цябе паўстанедзьдзя, -
сьню і мару штодня і штоноч,
мы адно аднаго ўсё ж знойдзем,
лёс прашу - мне цябе напрароч...
Сінявокая дзяўчынка,
арэол пшанічных кос.
Думаў, стрэну на хвілінку,
пастаім каля бяроз, -
а ўжо поўня на паўнеба -
усё дзівіцца на нас:
разыйсьціся даўно трэба,
разьвітаньня прыйшоў час...
Ты зьнікала, то зноў прылятала
мройнай птушкай, бы белы анёл.
Табе прысвяціў слоў нямала,
у сэрцы палае каханьне агнём...
Мы ля Прыпяці стрэчу прызначым,
і пра спрэчку забудзем з табой.
Будзем птушкамі лётаць, няйначай,
зноў каханьня народзім прыбой.
Сінявокая дзяўчынка,
арэол пшанічных кос.
Думаў, стрэну на хвілінку,
пастаім каля бяроз, -
а ўжо поўня на паўнеба -
усё дзівіцца на нас:
разысціся даўно трэба,
разьвітаньня прыйшоў час...

**Калыханка**

Месяц ходзіць каля зорак -
водзіць зь імі карагод...
Сьпяць дэльфіны ў сінім моры -
добра ў моры круглы год.
Засынае ўсё ў абшарах,
сны прыходзяць да дзяцей.
Толькі ўсё ня сьпіць Барбара, -
не заплюшчвае вачэй.
Сьпі, дачушка, сьпі, Барбара,
сон прыходзіць пакрысе.
Тваe збудуцца хай мары,
і жадайьні твае ўсе...
Бай-бай-бай -
сон хай прыйдзе пакрысе...
Засынае горад ціха -
сьпяць і дрэвы, і дамы,
сьпяць і бусел, і ласіха,
спаць даўно павінны мы...
Спаць даўно патрэбна хмарцы,
казкам трэба бачыць сны.
Хай прысніцца сон Барбарцы -
кветкі сонечнай вясны.
Сьпі, дачушка, сьпі Барбара,
шчасьце ты сваё спазнай, —
сьпяць цымбалы і гітара,
ты - таксама засынай...
Бай-бай-бай -
ты таксама засынай,
бай-бай-бай —
шчасьце ты сваё спазнай.
Месяц ходзіць сярод зорак -
водзіць зЬ імі карагод...
Сьпяць дэльфіны ў сінім моры,
добра ў моры круглы год.
Сьпі, дачушка, спі, Барбара,
сон ідзе хай пакрысе,
твае збудуцца хай мары
і жаданьні твае ўсе.

## Бліскавічная сіла паэзіі

З Анатолем Бароўскім я пазнаёміўся – аж страшна падумаць! - амаль трыццаць гадоў таму. Так, так, то было акурат напрыканцы 1977-га...

Мяне толькі што на раённай справаздачна-выбарнай канферэнцыі абралі сябрам бюро Гомельскага райкама камсамола і зацьвердзілі загадчыкам арганізацыйнага адзьдзела. На які месяц-другі раней першым сакратаром стаў Аляксей Карпенка, сакратаром па школах - Галіна Гуд.

Спадчына ад папярэднікаў засталася незайздросная, асабліва што тычылася росту радоў ВЛКСМ. Вось мы да самага Новага года адно і рабілі, што засядалі ды штодня прымалі юнакоў і дзяўчат у камсамол: за сьнежань таго года, лічы, каля тысячы з іх атрымалі новенькія білеты. З аднаго боку ад нас падобнага валу патрабавалі, з другога - за яго ж і крытыкавалі.

Разабрацца ў той сітуацыі і прыехаў уласны карэспандэнт газеты «Чырвоная зьмена» Анатоль Бароўскі. Газета зьяўлялася органам ЦК ЛКСМБ. Далёка камандзіравацца яму і не трэба было: пераехаў мост праз Сож - і ты ў Навабеліцы, дзе мы і знаходзіліся. (Мо тады і нарадзіўся верш пра Навабеліцу, што ўключаны ў зборнік?) І неўзабаве ў газеце зьявіўся вялікі «падвальны», як называюць газетчыкі, артыкул «У новыя ветразі - сьвеэісы вецер». Крытыкі ў наш адрас у ім, безумоўна, хапала, але яна, крытыка, як цяпер памятаю, была не зьнішчальнай, не злоснай, а хутчэй наадварот – добразычлівай, пра што, дарэчы, і сведчыла ўжо сама назва публікацыі.

Для мяне ж тая сустрэча з Анатолем стала ў нечым лёсавызначальнай: даведаўшыся, што да прыходу ў райкам я працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», ён і падахвоціў мяне супрацоўнічаць з «Чырвонай зьменай». Маўляў, не ўсё ж у вас і дрэнна, ёсць шмат і цікавых пачынаў і задумак, зрэшты, колькі выдатнай моладзі працуе ў гаспадарках раёна, - хіба ж яны не заслугоўваюць таго, каб пра іх ведала ўся краіна?

Так неўзабаве я стаў актыўным няштатным карэспандэнтам «Чырвонкі»: часьцей пісаў па ўласнай ініцыятыве, а калі-нікалі і цёзка - Анатоль - падкідваў ці падказваў тэмы. І газета ахвотна зьмяшчала мае допісы, а ад гэтага і само выданне карысталася павагай сярод моладзі – было прасьцей і з падпіскай: спадзяваліся - хто ведае, можа, і пра іх напішуць. Між іншым, падпіска тадыў вобласьці таксама была пад кантролем уласнага карэспандэнта. Згадваю, як ён жартаваў: «Праваліце падпіску на «Чырвонку» - лічыце, што ўсе крытычныя

артыкулы будуць толькі з вашага раёна». Мы стараліся не падвесці і яго, і сябе.

Так сталася, што я праз тры гады паехаў вучыцца ў Маскву - у Вышэйшую камсамольскую школу пры ЦК ВЛКСМ. Потым амаль тры гады ў апараце ЦК камсамола Беларусі, дзе курыраваў маладзёжны друк, радыё і тэлебачаньне, - у тым ліку і маю любімую «Чырвоную зьмену». Газету я выпісваў і атрымліваў нават падчас вучобы ў Маскве. А душа тым часам ірвалася ў журналістыку - і не проста куды-небудзь, а, безумоўна ж, у газету майго юнацтва.

У траўні 1985 года мара збылася: я стаў загадваць у «Чырвонцы» аддзелам вясковай моладзі, і ўжо цяпер я, як раней Анатоль мне, пачаў заказваць матэрыялы яму, - памяняліся, так бы мовіць, ролямі.

Потым праца адказным сакратаром, намеснікам рэдактара: амаль пяць гадоў мы разам былі ў штаце рэдакцыі. Аднойчы нават выпала магчымасць рабіць і сумесны матэрыял з Гомельскай абласной справаздачна-выбарнай камсамольскай канферэнцыі. Даволі востры атрымаўся тады артыкул, аж у ЦК ЛКСМБ вэрхал усчаўся. Ды такі, што рэдактара Валерыя Плюскова на бюро паклікалі. Дасталося і нам з Анатолем, хоць мы добра разумелі, што так магло напалохаць высокае камсамольскае начальства: вынесці сьмецьце з хаты на ўсю рэспубліку для іх было непажадана.

Працуючы ў «Чырвонцы», я ведаў, што Анатоль Бароўскі не толькі журналіст, а яшчэ і пісьменьнік: у 1982 годзе ў калектыўным зборніку «Знаёмства» пабачыла сьвет яго аповесьць «Тросьніца», а праз пяць гадоў выйшла і самастойная кніга аповесьцяў і апавяданьняў - «Каліна пад акном». Апроч таго, творы тагачаснага «чырвоназьменаўца» (а газета дала пуцёўку ў літаратуру многім беларускім пісьменнікам) друкаваліся ў часопісах «Маладосць» і «Полымя».

У 1990 годзе сышоў з «Чырвонкі» я, а праз нейкі час (адпрацаваўшы ў ёй больш як пятнаццаць гадоў - тры пяцігодкі!) пакінуў яе і Анатоль. Аднак наша сяброўства, замацаванае ў рэдакцыі, настоенае на зямляцкіх духоўных каранях, доўжыцца і па сяньня: я заўсёды радуюся кожнай новай кнізе старэйшага калегі па пяры, а ён, у сваю чаргу, ніколі не праміне павіншаваць з той ці іншай творчай удачай і мяне.

Пэўна, таму і рукапіс гэтай кнігі, перш, чым яна стала такой, Анатоль Бароўскі даслаў у часопіс «Полымя», дзе я працую цяпер.

Для многіх, вядома, зьявіцца поўным адкрыццём, што знаны гомельскі журналіст, празаік, мастак яшчэ, аказваецца, і паэт. Я ведаў, праўда, што Анатоль сябруе з паэтычным словам, зрэдзь чытаў

нават асобныя ягоныя вершы, але каб гэта было настолькі сур'ёзным заняткам, не думаў. Хаця, відаць, варта было б, бо ведаю: за што ні браўся Анатоль Бароўскі, ён робіць усё грунтоўна і сур'ёзна, без залішняй мітусьні і тым больш пазёрства, - «Бліскавіца» ляжала ў яго сталe не адзін дзесятак гадоў і дачакалася свайго часу.

У вершах майго земляка-паэта - і нашы родныя гомельскія краявіды, і людзі гэтага цудоўнага прысожска-прыпяцкага палескага краю, і паэтава трывога за іх лёс, атручаны ядзерным чарнобыльскім пылам, і боль за нашу мову, нашу Бацькаўшчыну.

Напачатку, бласлаўляючы зборнік вершаў «З бліскавіцай заручуся» на сустрэчу-спатканьне з чытачамі, я хацеў паразважаць над асобнымі творам і такім чынам як бы скіраваць іх да асноўных тэм кнігі, выказаць сваё захапленьне паэзіяй А. Бароўскага, а потым міжволі падумаў: а навошта? Аналізаваць кнігу, якую чытач трымае ў руках, - клопат няўдзячны і марны. Куды кіраваць чытача паэтычнага зборніка, на прачытаньне якога ён можа патраціць не на шмат болей часу, чым на чытаньне падобнага артыкула? Ды і навошта кіраваць, калі паэзія не паддаецца кананаванаму асэнсаваньню, а кожны ў вершах знаходзіць нешта сваё, адпавядаючае яго настрою і думкам?

Але так ці інакш мы разам з аўтарам гэтай кніжачкі вярнуліся ў сваю маладосьць, у сваё юнацтва, у тыя супярэчлівыя, але такія харошыя гады, якія застануцца ў нашай памяці назаўсёды, якія падаравалі нам з сябрам усхваляваныя паэтычныя радкі пра каханьне, сяброўства, духоўную ўзьнёсласьць...

У вершах Анатоля Бароўскага ёсьць і настрой, і думкі. І, вядома ж, - бліскавічная сіла паэзіі. І ў гэтым чытачы пераканаюцца самі.

***Анатоль Зэкаў,***
*Пісьменьнік*

***ЗЬМЕСТ***

***ЛІСТЫ ДА КАХАНАЙ***

***ВАСІЛЬКОВАЯ ЧЫРВАНЬ***

***КУЖАЛЬ ВОСЕНІ***



***ЧАРНОБЫЛЯ ЧОРНЫ ЧАБОР***

*Анатоль Бароўскі нарадзіўся 12 траўня 1943 года ў паляшуцкай вёсцы Крушнікі, што на Мазыршчыне.*

*Скончыў Мазырскі падінстытут. Працаваў у калгасе, на заводзе, настаўнічаў, двойчы служыў у войску - салдатам і лейтэнантам.*

*Працаваў намесьнікам дырэктара прафтэхвучэльні геапогіі ў Мазыры, у таварыстве «Веды».*

*Пятнаццаць гадоў працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Чырвоная зьмена» па Гомельскай і Берасьцейскай абласцях, рэдактарам газеты «Красавік-86» пры фондзе міласэрнасці «Засьцярога ад атама» ў Гомелі.*

*Сяньня зьяўляецца старшынёй Гомельскай абласной грамадзкай арганізацыі «Таварыства беларускай мовы» імя Францішка Скарыны і старшынёй абласной пісьменніцкай арганізацыі (СПБ).*

*Друкавацца пачаў з 1963 года. Аўтар кніг, у якія ўвайшлі аповесьці і апавяданьні - «Кацiна пад акном», «Азірнісяў каханьні», фантастычна-алегарычныя аповесьці - «Пякельны рай», кнігі публіцыстыкі - «Цеплыня», «Чорны бусел-белы цень»...*

*У часопісе «Маладосць» друкаваліся аповесьці «Тросніца», «Да свайго берага», «Бронік-афганец», фантастычна-алегарычная аповесць «Ахутавана», «Сьцеражыся майго гневу», «Замалі мой грэх»...*

*У часопісе «Полымя» надрукаваў раман-фантасмагорыю «Спакушэньне», аповесці «Вужык», «Тры елкі дзяцінства», нарысы пра Мазыр «Бурштынавы бераг Прыпяці», «Дорыць Добрыца Дабрыню»...*

*Вершы друкаваў у часопісе «Полымя», у газетах «Чырвоная змена», «Наша слова» і іншых выданьнях. Любіць маляваць (алеем, акварэльлю) пейзажы, манатыпы і фантастычныя сюжэты - як працяг ці дапаўненьне да літаратурных твораў. Друкаваў малюнкі ў часопісе «Маладосць».*

*У сшытку «З бліскавіцай заручуся» сабраны вершы, напісаныя ў розныя гады.*

ISBN 978-985-6817-67-3